14 лютага 2020 | № 6 (665)
Выдаецца з сакавіка 2002 года

# Новы час

novychas.by
АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА
• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

**Краіна самазабойцаў**
Стар. 9

**4 ВЫБАРАЎ НЯМА, А ВЫБАРЧЫ — ЁСЦЬ**

Аднаму беларускаму кодэксу — 20 гадоў. Які шлях прайшоў ён за час свайго існавання і як гэта адбілася на беларусах?



**6–7 «АДНАЎЛЕННЕ ГІСТАРЫЧНАЙ СПАДЧЫНЫ ПАТРЭБНАЕ ЎСІМ»**

Ці мог падумаць апошні канцлер ВКЛ Іахім Храптовіч, што яго палац перажыве дзве сусветныя вайны, але будзе разабраны на цэглу ў 1950-я гады?

**10 «БЕЛАРУСКАЯ МОВА — МОВА ПЕРШЫХ ПРАЧЫТАНЫХ МНОЮ КНІГ»**



Валянціну Яфімавічу Тарасу 9 лютага было б 90 гадоў

**11 АПОШНІ БОЙ «ДОЎБАРЧЫКА»**

Ён мог зрабіць выдатную вайсковую кар'еру, узначаліць адну з карпусных акруг Войска Польскага, магчыма, нават і ў Заходняй Беларусі, але...

# Каханне — гэта выбар, з якім ты будзеш да канца жыцця

Дзіяна СЕРАДЗЮК

**Павел і Вольга Севярынцы — пара, якая для многіх з'яўляецца ўзорам сужэнскага жыцця. Перажыць разам дзясяткі судоў, штрафаў, арыштаў, сутак, асабістую трагедыю і пры гэтым захаваць пяшчотнае каханне і клопат адно пра аднаго — сапраўдны подзвіг. Напярэдадні Дня ўсіх закаханых «Новы Час» вырашыў пакінуць палітыку і пагутарыць з Вольгай Севярынец пра любоў, сям'ю і асабістае шчасце.**



Фота Наша Ніва

## «Заўсёды ведала, што ён будзе маім мужам»

***— Воля, распавядзі пра сваё жыццё да знаёмства з Паўлам: пра што ты марыла, якія ў цябе былі мэты?***

— Насамрэч я — дзяўчынка з вёскі. Для мяне паступіць у сталіцу і застацца там працаваць было вельмі важна. Калі б я не прайшла на бюджэт, бацькі не змаглі б аплачваць вучобу. Але я паступіла на філфак, пачалося студэнцкае жыццё. Мы з сяброўкай пазнаёміліся з Кастусём Шыталем, ён нас паклікаў у БХД. Мы былі шчырыя да беларушчыны, перайшлі на беларускую мову.

***— А шчырасць да беларушчыны — адкуль узялася?***

— Відаць, яна недзе проста была. У сям'і ніхто не казаў, што трэба шанаваць беларускую мову, што яна родная. Бо гэта было натуральна — бацькі размаўлялі па-вясковаму, бабуля па-беларуску гаварыла. Памятаю, у мяне была прага да беларускіх спеваў, якія прывозілі стрыечныя брат з сястрой. Гэта як глыток свежага паветра з іншага, беларускага свету — «Песні свабоды», Ulis, я часта іх слухала. Ну і ў прынцыпе мне падабаліся беларуская мова і літаратура — нездарма я выбрала беларускую філалогію.

***— Але ж не кожны пераходзіць на беларускую мову. Што для цябе стала штуршком?***

— Сяброўку, з якой я здымала кватэру, Кастусь Шыталь спытаў: «А чаго гэта вы па-беларуску не гаворыце?». Яна прыйшла і кажа: «А чаго гэта мы не гаворым? А давай гаварыць!». Калі я на наступны дзень прыйшла на вучобу і стала па-беларуску размаўляць, усе здзівіліся. Але паколькі я ніколі не размаўляла на чыстай рускай мове і не бачыла ў ёй сваёй ідэнтычнасці — мне было прасцей.

***— Неўзабаве ты пазнаёмілася з Паўлам Севярынцам. Ведала раней пра яго, чым ён займаецца?***

— Не. Кастусь Шыталь жартуе, што адзіная добрая справа, якую ён зрабіў у жыцці — гэта пазнаёміў нас з Паўлам. Ён запрасіў нас на сустрэчу для моладзі, якую ладзіла БХД. Мне нават самой дзіўна, чаму я з такім адкрытым сэрцам усё гэта прыняла. Быццам гэта недзе было закладзена ўва мне, і я знайшла сваё.

***— Якім было тваё першае ўражанне пра Паўла?***

— Гэты момант пачынае для мяне самой абрастаць легендамі ***(усміхаецца)***. Я памятаю, ён мне, хутчэй, спадабаўся. Мы прыйшлі да Кастуся глядзець фільм «Плошча», мы і блізка не ведалі, што нешта такое ёсць у Беларусі. І вось чалавек, якога мы пабачылі ў фільме, заходзіць у пакой — яны з Кастусём разам здымалі кватэру. Мне вельмі спадабаліся Пашавы вочы — такія глыбокія і цёплыя — і прыгожая беларуская інтэлігентнасць.

***— Прапанову ён зрабіў на першым спатканні?***

— Ён паклікаў мяне сустрэцца вясной, пасля ўстаноўчага з'езду БХД. Нейк па-асабліваму сказаў, што хоча паразмаўляць, але я звязала гэта з патрэбай нешта зрабіць, бо мы ў БХД дапамагалі. Чамусьці вельмі хвалявалася. Ён прыйшоў і заявіў пра свае сур'ёзныя намеры адразу ж, на першай сустрэчы. Я, хутчэй, спужалася. Мне было 18 гадоў, а ён, сур'ёзны сфарміраваны чалавек, прапануе мне руку і сэрца. Мне гэта спадабалася, але хацелася хутчэй сысці. Мы схадзілі, разам памаліліся ў касцёле, пагулялі, была вельмі цёплая размова, і я паехала дадому ў разгубленых пачуццях, бо тады яго не кахала.

> **Нават калі мы не бачыліся пару гадоў, я адчувала, што ён — частка майго жыцця**

***— Як ты ўрэшце прыйшла да таго, што Павел — твой чалавек?***

— Дзесьці ў глыбіні душы я заўсёды ведала — ён будзе маім мужам. Нават калі мы не бачыліся пару гадоў, я яго ўспамінала і адчувала, што ён — частка майго жыцця. Пасля мы пачалі знаёміцца бліжэй. Пасля Плошчы 2010 года я пісала яму лісты ў «амерыканку», ведала, як годна ён праходзіць праз выпрабаванні — нічога падобнага я дагэтуль не бачыла. Пазней я стала прыязджаць у Куплін (дзе Павел Севярынец адбываў «хімію» пасля Плошчы-2010. — НЧ), вельмі часта сталі размаўляць па тэлефоне. Я ўбачыла, што гэты чалавек — проста скарб, і пакахала яго з часам. Паша кажа: каханне — гэта выбар, ты выбіраеш чалавека, з якім будзеш да канца жыцця. І я вельмі радая, што зрабіла гэты выбар. Адзінае, шкадую, што не зрабіла яго раней, бо ад моманту нашага знаёмства да вяселля прайшло пяць гадоў.

Працяг на стар. 5 »

## Замест штрафу — новы пратакол

**Новы пратакол за ўдзел у акцыі супраць інтэграцыі Беларусі і Расіі 20 снежня на актывіста Яўгена Батуру склалі менш чым за суткі пасля таго, як Мінскі гарадскі суд адмяніў пастанову аб штрафе.**

«Толькі што тэлефанавалі з Ленінскага РУУС. Напісаны новы пратакол па справе 20 снежня пасля таго, як гарадскі суд адмяніў пастанову суда па старым», — паведаміў актывіст.

Па тэлефоне Батуру сказалі, што новы пратакол быў напісаны яшчэ ўчора, літаральна адразу пасля адмены пастановы ў Мінскім гарадскім судзе.

Нагадаем, 9 студзеня суддзя Цэнтральнага суда Мінска Юлія Густыр аштрафавала Яўгена Батуру на 50 базавых велічыняў за ўдзел у акцыі супраць інтэграцыі Беларусі і Расіі 20 снежня 2019 года. У судзе Яўген прадаставіў юрыдычныя доказы таго, што правы на мірныя сходы гарантавана грамадзяніну Беларусі Канстытуцыяй і міжнародным заканадаўствам. Але суддзя пакарала актывіста буйным штрафам. Яўген абскардзіў гэтую пастанову ў Мінскім гарадскім судзе 11 лютага. Суддзя Максім Лапко, які адпачатку вёў пасяджэнне на беларускай мове, выслухаўшы тлумачэнні Батуры, прыняў рашэнне адмяніць пастанову Цэнтральнага суда і накіраваць справу да іншага суддзі.

НЧ

# Якія наступствы глабальнага пацяплення чакаюць Беларусь?

Вікторыя ЧАПЛЕВА

**У Беларусі сярэдняя тэмпература паветра павысіцца на 3–4 градусы. У гэтым перакананы Доктар Роб Філд, старэйшы навуковы супрацоўнік у Каралеўскім таварыстве абароны птушак. Ён прыехаў у Мінск, каб распавесці пра прычыны і наступствы змены клімату для Еўропы і Беларусі.**

### Прычыны змены клімату

Яшчэ ў XIX ст. навукоўцы патлумачылі сутнасць такой з'явы як «парнікові эфект». Газы награваюцца і даюць дадатковую энергію ў атмасферу. Ад гэтага і павышаецца тэмпература на паверхні планеты. Так, ужо тады стала зразумелай сувязь паміж вуглякіслым газам і пацяпленнем. Калі коратка, глабальнае пацяпленне — гэта змена канцэнтрацыі вуглякіслага газу ў атмасферы. Вуглякіслы газ выкарыстоўваецца раслінамі для фотасінтэзу. Вуглярод трапляе ў цела траваедных жывёл, затым — драпежнікаў. Назад элемент вяртаецца ў прыроду пры дыханні жывёл і пасля іх смерці ў выніку гніення. Вуглякіслы газ — прадукт не толькі жыццядзейнасці жывых арганізмаў. Газ утвараецца пры спальванні арганічнага паліва — нафты, прыроднага газу, драўніны, вугалю. Пры трапленні вуглякіслага газу ў атмасферу кругазварот элемента пачынаецца зноў.

Мы карыстаемся вуглародам у выглядзе выкапняў, імі мы актыўна «накачваем» атмасферу. Так канцэнтрацыя вуглякіслага газу ў ёй павялічваецца. Гэтая канцэнтрацыя і вымяралася на працягу многіх гадоў. У апошнія стагоддзі ўзровень канцэнтрацыі рэзка падскочыў. Доктар Роб прывёў у прыклад вулкан на Гаваях, дзе ідуць вымярэнні вуглякіслага газу: «Вымярэнні вядуцца з 1960-х гадоў, канцэнтрацыя вугляроду расце. Важна разумець, што вуглярод тут — не атрута. Але выкіды газу даюць дадатковую энергію, таму мы бачым рост тэмпературы».

### Наступствы пацяплення

З 1950–60-х гг. тэмпература паветра расце. Апошнія 10 год былі самымі спякотнымі за апошнія мільёны гадоў. «Калі мы працягнем жыць такім чынам, тэмпература зямлі вырасце на 4 градусы, — кажа Роб Філд. — Гэта азначае, што халодны клімат стане цёплым, а цёплы клімат — яшчэ больш спякотным. Кліматологі на самай справе зрабілі складаныя разлікі. Яны палічылі, што ў сярэднім тэмпература ў Еўропе памяняецца на 2–4 градусы, а ў Беларусі — на 3–4 градусы».

Ад канцэнтрацыі вуглякіслага газу зменіцца не толькі тэмпература паветра, але і колькасць ападкаў: «У Скандынавіі, краінах Балтыі і Беларусі ўзровень ападкаў узрасце. Канада стане больш вільготная, Амерыка — сухая. Змены будуць тычыцца і зерневых культур, паўплываюць яны на жывёл і расліны. Шмат якія папуляцыі не змогуць больш жыць у пэўных шыротах».

Канцэнтрацыя вугляроду ў атмасферы ўплывае яшчэ і на колькасць паводак у свеце: «Напрыклад, у Брытаніі ў 1953 годзе была паводка на Паўночным моры. Тады здарэнне лічылася рэдкасцю. Людзі думалі, што такое можа быць раз на сто гадоў. Зараз такія паводкі здараюцца раз на пяць гадоў». Чаму так адбываецца? Газ становіцца цёплы, ён абсарбіруецца ў акіяне. Акіян цяплее, таму і разліваецца.

Роб Філд кажа, што атмасфера на Паўночным і Паўднёвым полюсах мяняецца, па сутнасці, па той жа прычыне: «Мы выкарыстоўваем паліва – яго паглынае акіян. Тэмпература ў ім павялічваецца, у выніку тае лёд. Таму пэўныя краіны сутыкнуцца з праблемай паводак. Напрыклад, некаторыя рэгіёны Бангладэша будуць затопленыя. Калі ў бліжэйшыя дзесяцігоддзі не скарацяць выкіды вуглякіслага газу, не высаджваць дрэвы, то, хутчэй за ўсё, многія густанаселеныя тэрыторыі будуць падтопліваць. Мільёны людзей адчуюць на сабе ўплыў акіяна», – перакананы Роб Філд.

Навукоўцы падлічылі, што шэры журавель, які жыве і ў Беларусі, хутка пакіне краіну. Па клімаце яму будзе пасаваць бадай што адна Скандынавія. А ў Вялікабрытаніі ўсё часцей цэлымі калоніямі сталі з'яўляцца белыя чаплі. Раней іх там не было. Мала хто ведае сёння пра праблемы каралаў. Яны страчваюць свой колер, бо больш не могуць перапрацоўваць энергію. Да 2100 года, па ацэнках навукоўцаў, усе каралы знікнуць.

### Ці можна нешта змяніць?

Доктар Роб Філд перакананы, што сітуацыю можна змяніць: трэба скарацідь колькасць выкідаў вуглякіслага газу. Роб раіць выкарыстоўваць транспартныя сродкі з электрарухавікамі, скарачаць паліва на электрастанцыях, выкарыстоўваць альтэрнатыўныя віды энергіі: «Мы скарачаем дадатковыя выкіды, фіксуем ужо існуючыя». Пасадка дрэва – вельмі папулярная методыка сёння. «Але трэба высаджваць правільныя дрэвы ў патрэбных месцах. Напрыклад, пасадка дрэваў у стэпах, дзе яны ніколі не раслі, не прынясе нічога добрага ні для жывёл, ні для раслін. Гэта трэба рабіць з розумам», – кажа Філд. Роб адзначыў, што Беларусь дасягнула поспеху ў рэабілітацыі балот, што з'яўляецца павелічэннем выкіду кіслароду: «Няма нічога лепшага за аднаўленне прыроднай тэрыторыі. Прырода і людзі будуць пакутаваць у будучым, калі не навучацца супрацоўнічаць».

Выступ доктара Роба Філда быў зладжаны грамадскай арганізацыяй «Ахова птушак Бацькаўшчыны» пры падтрымцы Пасольства Вялікабрытаніі ў Мінску.

# Чаму Слуцкі райвыканкам супраць беларускамоўных шыльдаў?

Марыя ВЕРАС

**Каб паправіць даўнішнія хібы слуцкага будаўніцтва з заблытанай нумарацыяй дамоў на вуліцы 8 Сакавіка, случчанка Зінаіда Цімошак замовіла за ўласныя грошы шыльду з назвай сваёй вуліцы і нумарам дома. Шыльду планавалася размясціць на бакавой сцяне пяціпавярховіка з тым, каб яе можна было бачыць здалёк.**

Нумары дамоў пяціпавярховікаў тут размешчаныя ў такой цікавай паслядоўнасці, што іх можна паказваць усім, хто хоча паправіць настрой: №№ 4, 6 – пасля адразу ідуць №№ 22 і 32. Да таго ж да цотных дамоў прыватнага сектара прымыкаюць шматлікія завулкі, у тым ліку і завулак 8 Сакавіка, якія дадаткова ўносяць неразбярыху.

— Яшчэ ў лістападзе 2019 года адмыслоўцы вырабілі для нашага дома № 22 і за мае грошы шыльду на беларускай мове «вуліца 8 Сакавіка», — распавяла Зінаіда. — На белым колеры размешчаны чырвоны надпіс — з тым, каб пасавала бэжаваму і чырвонаму колерам на бакавой сцяне дома і было бачна здалёк. Звярнулася ў камунальную службу 511 з просьбай аб прымацаванні шыльды. У прызначаны час з'явілася супрацоўніца ЖКГ і некуды панесла шыльду. Праз дзве гадзіны вярнула яе назад са словамі: «Забракавалі ў аддзеле архітэктуры райвыканкама». Прыйшлося звяртацца пісьмова па тлумачэнні ў Слуцкі райвыканкам.

У адказе з райвыканкама ад 24.01.2020 г. № 3/1-2/640 за подпісам намесніка старшыні Пенязя М. П. гаворыцца, што, згодна з правіламі размяшчэння дамавых знакаў «на будынках і збудаваннях, размешчаных у сярэдзіне вуліцы, усталёўваюцца толькі дамавыя знакі з указаннем нумара будынка альбо збудавання».

— Лічу, што ў маім выпадку гэта правіла не спрацоўвае, бо сама нумарацыя дамоў не адпавядае правілам размяшчэння саміх будынкаў згодна з заканадаўствам, — не згаджаецца Цімошак. — Тут трэба яшчэ пашукаць, дзе сярэдзіна, а дзе канец.

У адказе таксама паведамляецца: «На падставе Закона РБ ад 16 лістапада 2010 года №190-З "Аб найменнях геаграфічных аб'ектаў" найменні геаграфічных аб'ектаў прысвойваюцца на беларускай мове. Але дзеянне Закона не распаўсюджваецца на назвы аб'ектаў, якія прысвоены да уступлення ў сілу Закона 02.03.2011. У дадзеным выпадку раней прысвоенае найменне на рускай мове захоўваецца». Таму, маўляў, няма магчымасці ўсталяваць знак з беларускамоўнай назвай («вуліца 8 Сакавіка»), «бо адсутнічае права самастойна змяняць на беларускую мову аналагавыя дадзеныя дома».

— Аднак на даўно збудаваным доме № 4 гэтай жа вуліцы ўжо многа гадоў вісіць беларускамоўная шыльда «8 Сакавіка», і за гэта нікога яшчэ не арыштоўвалі і не каралі, — гаворыць Зінаіда Цімошак. — У выніку мне не дазволілі ўсталяваць маю дадатковую шыльду на беларускай мове на бакавой сцяне дома, але ў студзені 2020 года супрацоўнікі ЖКГ дадаткова размясцілі новую шыльду на расійскай мове каля 1-га пад'езда.

Шмат каму са случчан не падабаецца, што вуліца беларускага паэта Максіма Багдановіча на ўказальніках пададзена па-руску. Пра гэта і іншае гаворыцца ў новым звароце старшыні Слуцкага Таварыства беларускай мовы Зінаіды Цімошак у райвыканкам:

«Што датычыцца ганебнага рускамоўнага ўказальніка «улица Максима Богдановича», хачу праінфармаваць райвыканкам, што Максім Багдановіч — беларускі паэт, які пісаў вершы на беларускай мове, быў душою аддадзены не Расіі, а Беларусі. Ён, калі кіраўніцтва райвыканкама не ведае, нават напісаў верш, прысвечаны слуцкім ткачыхам, у якім ухваляў нашыя беларускія васількі. Пісаць у беларускім горадзе Слуцку ўказальнікі вуліцы Багдановіча з яго прозвішчам на рускай мове — гэта не ўшанаванне памяці знакамітага паэта, а адкрыты здзек з яго памяці і творчасці. Гэтакі ж здзек учынены і з памяці пра Альгерда Абуховіча ў Навадворцах, і з некаторых іншых беларускіх паэтаў… Усё вышэй сказанае яшчэ раз даказвае, што кіраўніцтва Слуцкага райвыканкама з непавагай адносіцца да адной з дзяржаўнай моў — беларускай, а паважае толькі адну дзяржаўную мову — рускую».

Зінаіда Цімошак просіць райвыканкам:

1) дазволіць размяшчэнне беларускамоўнай шыльды на бакавой сцяне дома № 22 (вуліца 8 Сакавіка) адпаведна колеру сцяны дома;
2) ліквідаваць рускамоўныя ўказальнікі вуліц, якія не адпавядаюць беларускамоўным шыльдам на дамах («улица Копыльская», «улица Виленская»);
3) замяніць рускамоўныя ўказальнікі вуліц з імёнамі беларускіх паэтаў і пісьменнікаў на беларускамоўныя;
4) замяніць паламаны ўказальнік «улица Софии Слуцкой – улица Виленская» на новы, але беларускамоўны, бо вобраз беларускай святой і назва гістарычнай вуліцы гэтага заслугоўваюць;
5) ажыццявіць іншыя мерапрыемствы па ліквідацыі засілля рускамоўных назваў і шыльдаў з тым, каб беларускія жыхары горада Слуцка разумелі, што яны жывуць у Беларусі.

Адказу на новы ліст Зінаіды Цімошак пакуль няма.

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Хопіць пудрыць нам мазгі!

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Лукашэнка напрыканцы мінулага тыдня зноў злётаў да Пуціна. Вынікі гэтых перамоваў падносяцца па-рознаму. Расійскія каментатары кажуць, што Мінск прайграў і кіраўніка Сінявокай у чарговы раз нахілілі. Беларускія агучваюць адваротнае. Асабліва вылучыўся віцэ-прэм'ер Дзмітрый Крутой. Маўляў, і газ мы будзем атрымліваць па «старым» кошце, і выбілі, нарэшце, з Расіі нафту па цане «не вышэйшай за сусветную».**

Дзе праўда? Праўда, як заўсёды, у дэталях, з-за якіх словы Крутога выглядаюць як вешанне локшыны на вушы даверлівым людзям. Але ў тым-та і справа, што беларусы ўжо даўно не «даверлівыя».

Напрыклад, дасягненне перамоўшчыкаў, што газ нам будуць пастаўляць па коштах мінулага года — 127 долараў за тысячу кубаметраў. Дык у тым уся і справа, што пра гэты кошт мы ведалі яшчэ да таго, калі мінулы год стаў мінулым. Пра гэта дамовіліся ўжо даўно — дык у чым тут дасягненне?

А калі нават і дасягненне, дык што з таго? Журналістка Святлана Калінкіна на тыдні прывяла цікавыя разлікі. 127 долараў за тысячу кубаметраў — гэта, па сярэднім курсе Нацбанка РБ за мінулы год, недзе 265 рублёў. Юрыдычная асобы і індывідуальныя прадпрымальнікі атрымлівалі газ у мінулым годзе па цане 533,72 рубля за тысячу кубаметраў, або па 255 долараў «з хвосцікам». «Гэта значыць, удвая (!) даражэй», — зазначае яна.

Далей — болей. Бюджэтным арганізацыям і арганізацыям ЖКГ газ пастаўляўся па 529,15 рублёў за тысячу кубаметраў. Або па 253 долара.

Ёсць, піша Калінкіна, ільготнікі — вытворцы цэменту, цэглы, азотных угнаенняў, паперы, ільняных тканін і гэтак далей — тыя, каго дзяржава падтрымлівае. І толькі індустрыяльны парк «Вялікі Камень» на асаблівым рахунку, — таму што тарыф на газ для яго вызначаўся пад кантролем кітайскіх спецыялістаў, якія лічыць умеюць. Дык вось: «Вялікі Камень» атрымліваў газ па цане 334,16 рублёў за тысячу кубаметраў. Ці менш за 160 долараў. «Ці ёсць розніца: 255 долараў для ўсіх і 160 для кітайскіх сяброў?» — задаецца пытаннем журналістка.

Як зазначае Калінкіна, у спецтарыфе для «Вялікага Каменя» прысутнічае здаровы сэнс: 127 долараў каштуе сам газ і яго транспарціроўка на больш чым 3000 км да беларускай мяжы і 33 долара — дастаўка па Беларусі. Гэта ўжо неяк больш падобна на адэкватны кошт.

А мы з вамі, звычайныя спажыўцы, з 1 студзеня плацім 0,4213 рубля за кубаметр газу, а ў пераліку на тысячу кубаметраў — 421,3 рубля, ці прыблізна 200 долараў.

Зразумела, узнікаюць пытанні: што нам той газ па 127 долараў за тысячу кубаметраў, чаму «дзяржава для народа» аддае перавагу не ўласнаму насельніцтву, а кітайскім таварышам (можа, у нас дзяржава для кітайскага народа?), і ўвогуле — куды знікае гэты звышпрыбытак? У чыю кішэню?

А пасажаў таго ж Дзмітрыя Крутога наконт нафты не разумеюць нават дасведчаныя эканамісты. Сапраўды, можа, мы і дамовіліся пра тое, што Расія не будзе прадаваць нам нафту па кошце, вышэйшым за сусветны. Але добра вядома — нафта з Расіі ў Беларусь пастаўлялася па формуле ЕАЭС: сусветны кошт мінус экспартная пошліна і плюс (пра што мы даведаліся нядаўна) прэмія для пастаўшчыкоў. У выніку падатковага манеўру пошліна пастуова зніжаецца, аднак яна яшчэ не роўная нулю — гэта прыкладна 17 % ад кошту нафты, пра што казаў нядаўна Лукашэнка. Такім чынам, узнікае пытанне: ці мы будзем набываць у Расіі нафту з «дысконтам» у 17%, альбо мы пагадзіліся на тое, каб браць яе па сусветным кошце без «дысконту»?

Калі апошняе — дык ці можна назваць гэта дасягненнем?

Зразумела, нам трэба саскокваць з нафтагазавай іголкі, і гэтае саскокванне, як і ў любога наркамана, будзе суправаджацца ломкамі і болем. Але без гэтага мы не захаваем сваё «здароўе» — то-бок, незалежнасць і суверэнітэт.

Беларусы ўсё ж думаюць, як выкруціцца. Калі дзяржсакратар ЗША Майкл Пампеа сказаў у Мінску, што Штаты гатовыя забяспечваць нас «неабходнай нафтай на 100% па канкурэнтных цэнах», у Расіі пасмяяліся. Маўляў, цялушка — палушка, да рубель перавоз: транспартоўка нафты з ЗША ў Беларусь будзе каштаваць даражэй за гэтую нафту. Аднак, па звестках амерыканскага выдання Daily Beast, Беларусь ужо дамовілася з кампаніяй з Паўночнай Дакоты пра куплю 18 млн барэляў нафты (каля 2,5 млн тон) у 2020 годзе.

І ў Беларусь яе везці зусім няма патрэбы. Для гэтага існуе так званая SWOP-схема. Яе сутнасць у тым, што Беларусь купляе нафту ў Амерыцы і вязе яе ў Польшчу. А Польшча купляе нафту ў Расіі. «Беларуская» нафта перапрацоўваецца на заводах Польшчы, а Беларусь, у сваю чаргу, забірае і перапрацоўвае «польскую» нафту з нафтаправода «Дружба». Пытанне ў тым, што з Амерыкі палякам ідзе даражэйшая і больш якасная нафта маркі Brent, на якую заточаныя польскія заводы, а нам — звыклая Urals. Да таго ж палякі ашчаджаюць на 650 км транзіту праз Беларусь.

Таму пра ўмовы SWOP-схемы прыйдзецца дамаўляцца дадаткова — але ўжо з палякамі.

А яшчэ цікава — у працэсе перамоў з Расіяй узнікла пытанне Беларускай АЭС. У сувязі з тым, што першы энергаблок так і не запусцілі, як планавалася, у 2019-м, беларускі бок просіць перанесці на больш позні час пачатак выплат па крэдыце на суму каля 10 млрд долараў, падоўжыць тэрмін прадастаўлення крэдыту, а таксама знізіць працэнтную стаўку. Сваю просьбу Беларусь абгрунтавала «жаданнем прывесці ўмовы па крэдыце на АЭС з кантрактамі, якія існуюць у Расатама ў іншых краінах», паведамляюць СМІ.

Падаецца, нармальныя патрабаванні. Калі не ўзгадваць, што казаў той жа Лукашэнка ў пасланні народу і парламенту ў мінулым годзе. А казаў ён, нібыта АЭС нам каштуе танней, чым планавалася: паводле слоў Лукашэнкі, кошт сапраўды знізіўся з 10 млрд долараў да 7 млрд долараў за кошт дзеяннаў беларускага боку па жорсткім кантролі пры будаўніцтве. І яшчэ дадаў, што Пуцін прасіў яго не агучваць кошт БелАЭС, каб не псаваць Расатаму бізнес — маўляў, у іншых замежнікаў расійскі атам каштуе даражэй.

> **У гэтым разе зусім незразумела, чаму беларускі бок настойвае на прывязданні «ўмоваў па крэдыце на АЭС з кантрактамі, якія існуюць у іншых краінах». Мы што, самі сабе робім АЭС даражэйшай? І зноў жа — дзе грошы? Куды падзеліся «зэканомленыя» 3 млрд долараў?**

У гэтым разе зусім незразумела, чаму тады беларускі бок настойвае на прывязданні «ўмоваў па крэдыце на АЭС з кантрактамі, якія існуюць у іншых краінах». Мы што, самі сабе робім АЭС даражэйшай? І зноў жа — дзе грошы? Куды падзеліся «зэканомленыя» 3 млрд долараў — калі размова ідзе пра «выплаты па крэдыце на суму каля 10 млрд долараў»?

Карацей, калі нам хлусілі? Аляксандр Рыгоравіч у час паслання альбо цяпер?

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Вячаслаў Сіўчык



**Палітык стаў не толькі рэкардсменам па «судовым канвееры», але і, падаецца, адзіным, датычна каго былі прынятыя дзіўныя рашэнні.**

Дзве адміністрацыйныя справы за парушэнне заканадаўства аб масавых мерапрыемствах супраць лідара Руху салідарнасці «Разам» Вячаслава Сіўчыка спыненыя. Такія рашэнні 10 лютага прынялі суддзі суда Партызанскага раёна Наталля Дзядкова і Іван Неўмяржыцкі. Падстава — выйшлі тэрміны даўнасці здзяйснення правапарушэнняў.

Нагадаем, што ўсяго супраць Вячаслава Сіўчыка было складзена пяць пратаколаў па артыкуле 23.34 КаАП за ўдзел у снежаньскіх акцыях пратэсту супраць інтэграцыі з Расіяй.

Усе пяць пасяджэнняў па адміністрацыйных справах пераносіліся шмат разоў, бо Сіўчык быў за межамі краіны. Але на мінулым тыдні суддзя Анатоль Барысёнак усё ж вынес рашэнні па дзвюх справах — па 15 сутак за ўдзел у акцыях 8 і 20 снежня. Разгляд яшчэ адной справы павінен адбыцца 24 лютага.

## Ганна Канапацкая



**Экс-дэпутатка Палаты прадстаўнікоў заявіла, што плануе ўзяць удзел у праймерыз адзінага кандыдата ад апазіцыі.**

Як паведаміла Ганна Канапацкая ў каментары для БелаПАН, «асноўная мэта ўдзелу ў праймерыз — перамога і далейшая кансалідацыя прыхільнікаў дэмакратычных пераменаў у нашай краіне». Паводле працэдуры выбараў адзінага кандыдата ад апазіцыі, прэтэндэнт можа альбо вылучыцца ад партыі, альбо сабраць 200 подпісаў. Канапацкая ўшчэнт палаялася са сваёй Аб'яднанай грамадзянскай партыяй і, адпаведна, павінна вылучыцца шляхам збору подпісаў.

Паводле яе слоў, цяпер фармуецца яе каманда для ўдзелу ў выбарах, і будуць выкарыстаны напрацоўкі створанай у 2017 годзе кампаніі «Наперад, Беларусь!» (ад якой яна тады, дарэчы, адхрысцілася).

«Касцяк з прафесіяналаў ужо ёсць. Людзі ў камандзе практычна ўсе новыя, з вопытам працы ва Украіне, Расіі, Польшчы», — адзначыла Ганна Канапацкая.

«Я ў прынцыпе падтрымліваю ідэю аб'яднання апазіцыі самай шырокай кааліцыяй, з аднаго боку, з другога боку, лічу, што вылучэнне ад аб'яднанай апазіцыі аднаго адзінага кандыдата робіць сітуацыю безальтэрнатыўнай і істотна палягчае задачу дзеючай улады. Я планую выкарыстоўваць пляцоўку праймерыз для далейшай працы з апазіцыйнымі лідарамі і грамадзянскай супольнасцю», — дадала Канапацкая. Экс-дэпутатка ўжо апублікавала ў сацыяльных сетках сваю перадвыбарчую праграму пад назвай «За дзесяцімільённую Беларусь». Асноўныя яе пункты — незалежнасць краіны, свабода грамадзян, рэформа эканомікі і стымуляванне нараджальнасці.

У той жа час Канапацкая заявіла ў інтэрв'ю «Белсат», што не можа «браць на сябе адказнасць і заклікаць людзей на несанкцыянаваныя акцыі». Між тым, адна з умоваў абрання «адзіным», — «адстойванне сапраўдных вынікаў выбараў усімі негвалтоўнымі сродкамі», аж да ўсеагульнага страйку.

## Віктар Марціновіч



**Да канца 2020 года ў пісьменніка павінен выйсці новы раман. А называцца ён будзе гучна — «Рэвалюцыя», паведаміла «Еўрарадыё».**

Раман, па словах Марціновіча, выйдзе адначасова ў Беларусі і Расіі. Праўда, не выключана, што нямецкі варыянт кнігі з'явіцца раней, бо пераклад ужо гатовы. На пытанне, ці звязаны раман з такой назвай з будучымі прэзідэнцкімі выбарамі, аўтар адказаў катэгарычнай адмовай: падзеі твора адбываюцца не ў Беларусі.

Віктар Марціновіч напісаў шэсць кніг: «Параноя», «Сцюдзёны вырай», «Сфагнум», «Мова», «Возера радасці», «Ноч». На яго прэзентацыі прыходзяць сотні чалавек. У 2014 годзе ён атрымаў прэмію за лепшы дэбют (Encouragement Award) ад Еўрапейскага таварыства навуковай фантастыкі.

Кацярына ШУСТ

# Выбараў няма, а выбарчы — ёсць

**Аднаму беларускаму кодэксу — 20 гадоў. Які шлях прайшоў ён за час свайго існавання і як гэта адбілася на беларусах?**



Фота www.borlib.by

Выбарчы кодэкс быў прыняты толькі 11 лютага 2000 г. Да таго часу правядзенне выбараў і рэферэндумаў, якіх у гісторыі незалежнай Беларусі адбылося багата, рэгулявалася асобнымі законамі. У пэўным сэнсе ўніфікацыя заканадаўства, стварэнне адзінага падрабязнага дакумента, безумоўна, патрэбныя. Але ці стаў гэты дакумент дастатковым падмуркам для таго, каб выбары праходзілі празрыста і дэмакратычна?

Як бы ні жадалі, пэўна, асобныя прадстаўнікі ЦВК, Беларусь не магла цалкам ізалявацца ад міжнародных прававых нормаў ва ўласным выбарчым заканадаўстве. Усё ж ціск еўрапейскай супольнасці патрабаваў прыгожых словаў і фармулёвак. А беларуская рэчаіснасць з няўрымслівымі апазіцыйнымі палітыкамі вымагала пакідаць сабе прастору для манеўру. Таму ў выбарчым кодэксе даволі шмат нюансаў, якія ў залежнасці ад ракурсу падачы на выбарчым участку могуць зайграць рознымі фарбамі.

Кодэкс рэгулюе ўсе аспекты правядзення выбараў і адлюстроўвае змены заканадаўства. За час яго існавання было прынята шмат правак і ўдакладненняў. Вось спіс законаў, паводле якіх адбывалася рэфармаванне кодэкса: Закон Рэспублікі Беларусь ад 4 ліпеня 2000 г. № 406-3; Закон Рэспублікі Беларусь ад 4 студзеня 2003 г. № 183-3; Закон Рэспублікі Беларусь ад 6 кастрычніка 2006 г. № 166-3; Закон Рэспублікі Беларусь ад 4 студзеня 2010 г. № 99-3; Закон Рэспублікі Беларусь ад 8 лістапада 2011 г. № 309-3; Закон Рэспублікі Беларусь ад 25 лістапада 2013 г. № 72-3; Закон Рэспублікі Беларусь ад 4 чэрвеня 2015 г. № 268-3.

Можна заўважыць, што праўкі пачалі ўносіць ужо праз паўгода пасля выхаду кодэкса і нават пры адсутнасці ў гэты перыяд выбараў. Першая рэдакцыя была даволі «сырой» — напрыклад, стваральнікі не прадугледзелі… назіральнікаў!

Далейшыя змены былі звязаныя з падзеямі чарговых выбараў і тым, што прадстаўнікі ЦВК улічвалі, з аднаго боку, свае слабыя моманты, якімі карысталіся апазіцыйныя кандыдаты, а з іншага — «надакучлівыя» рэкамендацыі БДІПЧ АБСЕ, Савета Еўропы і іншых міжнародных структур (якія, дарэчы, дагэтуль з’яўляюцца і з’яўляюцца; чарговыя, па выніках выбараў мінулага года, будуць апублікаваныя ў хуткім часе).

Асабліва шматлікія змены напаткалі кодэкс на яго дзесяцігадовы юбілей. У першую чаргу гэта адмена жорсткіх абмежаванняў у вылучэнні і рэгістрацыі кандыдатаў у дэпутаты, магчымасць правядзення агітацыйных мерапрыемстваў у паведамляльным парадку, дазвол фінансавання выбараў з прыватных фондаў кандыдатаў, а таксама правядзенне тэледэбатаў. Але разам з тым у новай рэдакцыі кодэкса быў скасаваны парог яўкі на мясцовыя выбары — гэта спрасціла для ўладаў магчымасць заўжды абвяшчаць, што зусім непапулярныя ў насельніцтва выбары адбыліся. Іншыя прагрэсіўныя новаўвядзенні разбіліся аб жорсткую рэчаіснасць. Прэзідэнцкія выбары і разгон масавага пратэсту ў снежні 2010 года яскрава прадэманстравалі: кодэкс — кодэксам, а жыццё — жыццём.

Тады ж, у 2010 г., кодэкс змяніў парадак фарміравання выбарчых камісій, якія цяпер мусілі складацца з прадстаўнікоў палітычных партый і іншых грамадскіх аб'яднанняў як найменш на трэціну. На словах гучыць прыемна, а на практыцы ў камісіі папросту ўключаюцца прадстаўнікі марыянеткавых партый і ГА. Сябры апазіцыйных партый у камісіі амаль ніколі не трапляюць. І ўвогуле фарміраванне выбарчых камісій дэ-факта — гэта проста запіс чальцоў аднаго працоўнага калектыву пад выглядам прадстаўнікоў розных арганізацый ці звычайных грамадзян. Выбарчым кодэксам гэта катэгарычна забаронена, але дакумент не ўтрымлівае прапісанай працэдуры прадухілення такога злоўжывання. Хаця любы назіральнік на ўчастку вельмі хутка заўважае, як блізка знаёмыя паміж сабою чальцы камісіі.

Падчас выбарчай кампаніі 2012 г. пэўныя апазіцыйныя сілы знялі сваіх кандыдатаў перад самымі выбарамі і агітавалі за байкот, а прадстаўнікі гэтых партый пры ЦВК давалі міжнародным місіям назірання тлумачэнне і абгрунтаванне гэтаму кроку. ЦВК моцна раззлаваўся. Так што на старонках абноўленага ў 2013 г. кодэкса знайшла сваё месца забарона агітацыі за байкот, а таксама было выключана палажэнне пра «членаў ЦВК ад апазіцыйных партый з правам дарадчага голасу».

У важных сутнасных момантах кодэкс дагэтуль утрымлівае такія фармулёўкі, якія не абараняюць волевыяўленне грамадзян і спрыяюць самаўпраўству камісій. Напрыклад, назіральнік не мае права перашкаджаць працы камісіі. Пад перашкоду працы патрапляюць любыя дзеянні, накіраваныя на выкрыццё фальсіфікацый: ад спробы рабіць фота і відэа падліку галасоў да хапання за рукі «карусельшчыкаў» нават па-за межамі ўчастка. Кодэкс таксама не ўтрымлівае дакладнага падрабязнага апісання працэдуры падліку галасоў, абмяжоўваючыся лаканічным «парадак падліку вызначае старшыня камісіі».

І гэта адзін з трох кітоў, на якіх галоўным чынам і трымаецца ўся сістэма фальсіфікацый беларускіх выбараў. Сапраўды, як можа не перамагчы патрэбны ўладзе кандыдат, калі дэ-факта назіральнікі не маюць аніякай магчымасці пракантраляваць змест бюлетэняў? Шматлікія апеляцыі дэмакратычных сіл да прынятай у іншых краінах практыкі ні да чаго не прывялі. Нядаўняя спроба былой дэпутаткі Ганны Канапацкай унесці заканадаўча ў кодэкс норму аб празрыстым для назіральнікаў падліку галасоў скончылася няўдала.

Іншыя два кіты — датэрміновае галасаванне працягласцю ў пяць дзён і сама па сабе мажарытарная сістэма выбараў. І Лідзія Ярмошына асабіста, і іншыя прадстаўнікі ЦВК неаднаразова настойвалі, што рэформы па змене гэтых практык — адмова ад датэрміновага галасавання і пераход да прапарцыйнай сістэмы парламенцкіх выбараў — занадта грунтоўныя, Беларусь да іх яшчэ не гатовая. Маўляў, адной толькі перадрукоўкай выбарчага кодэксу такія змены не здзейсніць. Тут нам адначасова і хлусяць, і не.

Безумоўна, пры вялікім жаданні ўладаў любую прапісаную норму можна на справе абысці, проста на гэта спатрэбіцца больш высілкаў. Чым больш дасканалая норма заканадаўства, тым больш відавочным будзе яе парушэнне. У асноўны дзень на выбарчых участках і так дамалёўваюць яўку: зрабіць гэта без датэрміновага галасавання будзе цяжка, але магчыма. Забяспечыць абранне ў парламент толькі прадстаўнікоў патрэбных квазіпартый пры напрацаваных ужо механізмах прапаганды і амаль цалкам знішчаным іміджы апазіцыі таксама не ўяўляецца неверагодным.

Але пакуль улады трымаюцца за звыклую практыку і не ўводзяць у выбарчы кодэкс нормы, якія прымусяць напружвацца ў фальсіфікаванні выбараў яшчэ больш. Калі ж мы кажам пра інтарэсы грамадства, зразумела, што рэальныя рэформы адбудуцца толькі пры палітычнай волі да гэтага. Замацаваць іх у кодэксе сапраўды не складана, але зрабіць так, каб у жыцці яны працавалі для грамадзян, немагчыма праз адзін толькі надрукаваны ў тыпаграфіі новы тэкст дакумента.

**Рэальныя рэформы адбудуцца толькі пры палітычнай волі да гэтага. Замацаваць іх у кодэксе сапраўды не складана, але зрабіць так, каб у жыцці яны працавалі для грамадзян, немагчыма праз адзін толькі надрукаваны ў тыпаграфіі новы тэкст дакумента**

Дык ці патрэбны нам гэты незразумелы дакумент, калі, здаецца, ён паляпшае жыццё толькі ўладным фальсіфікатарам, а не простым беларусам? І тут справа сапраўды не ў тым, як і што напісана ў кодэксе. Дасведчаныя ў працы на выбарах прадстаўнікі дэмакратычных сілаў адзначаюць, што наша выбарчае заканадаўства само па сабе даволі някепскае і цалкам дазваляе правесці дэмакратычныя празрыстыя выбары.

Нават у дэмакратычных дзяржавах трапляюцца размытыя фармулёўкі заканадаўчых нормаў, прымяненне якіх цалкам залежыць ад традыцыі. Там, дзе людзі дбаюць пра свае правы, яны звычайна кіруюцца сумленнем і здаровым глуздам у выкананні законаў, і гэта дазваляе прымусіць любы недасканалы дакумент працаваць на карысць, а не на шкоду. Аўтар гэтых радкоў бачыла выбары ў дэмакратычных краінах — Вялікабрытаніі, Чэхіі, Чарнагорыі — і ведае, наколькі лагічна дзейнічаюць грамадзяне: і камісіі, і назіральнікі, і кандыдаты, якія жадаюць дабра і развіцця сваёй краіне.

Зрэшты, і тым, што маем, варта карыстацца. А для гэтага падумаць, што дазваляе нам выбарчы кодэкс і як прымусіць яго працаваць на нас. Напрыклад, узяць слабае месца выбарчых сістэм усіх постсавецкіх краінаў — норму пра таямніцу галасавання. Праблема абумоўленая тым, што пры СССР волевыяўленне грамадзян кантралявалася. Краіны абыходзілі гэтую заганную практыку на шляху да дэмакратыі па-рознаму.

Ва Украіне, дзе пашырана набыццё галасоў, пры якім выбаршчык фіксуе бюлетэнь для справаздачы, прадугледжана адміністрацыйная адказнасць. Таямніца галасавання з’яўляецца абавязкам. Гэта, дарэчы, спрацавала супраць дзейснага прэзідэнта Уладзіміра Зяленскага, які паказаў запоўнены бюлетэнь прэсе і атрымаў штраф за парушэнне парадку агітацыі акурат у дзень свайго абрання.

У Беларусі таямніца галасавання пакуль з’яўляецца правам, а не абавязкам грамадзяніна, што дазваляе пафантазаваць: а вось калі хаця б на нейкім асобным выбарчым участку грамадзяне, канчаткова напляваўшы на несумленныя камісіі, што не лічаць галасы, усе і салідарна прадэманструюць свае «птушачкі» незалежным назіральнікам перад апусканнем у скрынку, а лепш на фотакамеру… Але пакуль гэта застаецца фантазіяй.

Што выбарчы кодэкс адзначыў годна, дык гэта 19-цігоддзе: з’явілася яго беларускамоўная версія. Здаецца, пры ўсіх недахопах, якія мы маем з правядзеннем выбараў, такая змена ні на што не можа сутнасна паўплываць. Але выпадкі з нядаўнім галасаваннем паказалі: прадстаўнікі камісій, якія ўсё ж на час выбараў увасабляюць дзяржаву, не толькі не валодаюць адной з дзяржаўных моваў, але нават не пазнаюць яе.

У гэтым сэнсе і простае абавязковае забеспячэнне камісій беларускай версіяй кодэкса можа стаць той кропляй вады, што точыць камень. Як гаворыцца, сёння яны проста паглядзяць на вокладку дакумента па-беларуску, назаўтра ад няма чаго рабіць (падчас датэрміновага галасавання на ўчастках сапраўды сумна) пагартаюць яго крыху. А там і глядзіш, на паслязаўтра пачне прачынацца сумленне. Праз беларускую мову да грамадзянскай свядомасці — чаму б і не?

Хочацца спадзявацца, што сама практыка правядзення выбараў усё ж зменіцца незалежна ад кодэкса, і да беларусаў вернецца скрадзены ў іх дэмакратычны інстытут. Але без нашай смеласці і руплівай працы гэтага не адбудзецца ніколі. Таму варта не спыняцца і выкарыстоўваць любыя магчымасці, крэатыўнасць, аналізаваць, распрацоўваць прапановы, дабівацца хоць нейкіх зменаў і ў заканадаўстве, і на практыцы. А дакумент дапісаць паспеем заўжды.

# Каханне — гэта выбар, з якім ты будзеш да канца жыцця

« Працяг. Пачатак на на стар. 1





### «Як ты будзеш сварыцца, калі яго заўтра могуць забраць?»

*— Ты ўсведамляла, які лёс чакае жонку апазіцыйнага палітыка ў Беларусі? Гэта цябе не палохала? Ці ты аказалася гатовая?*

— Вялікай нечаканасцю было першае затрыманне на другім годзе нашага шлюбнага жыцця. Паўла ў Оршы пасадзілі на суткі за мітынг «недармаедаў». Я тады моцна перажывала, бо гэта было ўпершыню. Але тое шчасце, якое мы маем у шлюбе, непараўнальнае з усімі тымі абставінамі, якія адбываюцца ў жыцці. Я разумею, што гэта — частка яго жыцця, якую мы разам павінны пераадолець.

*— Але ж для многіх выпрабаваннем робіцца, што муж не заўсёды можа ўтрымліваць сям'ю ці дапамагаць жонцы. Вы ж не толькі пераадольваеце гэта, але і выглядаеце ўсё гэтак жа закаханымі адно ў аднаго і шчаслівымі. Што вас падтрымлівае?*

— Паша ўсе свае сілы аддае на служэнне іншым людзям. Калі я ўяўляю: мой муж замест гэтага мог бы рубіцца ў камп'ютарныя гулькі ці займацца нейкай непатрэбшчынай, мне становіцца кепска. Калі я бачу, што Паша робіць тое, дзеля чаго ён пакліканы, як чалавек, які яго кахае, я мушу яго падтрымліваць, бо гэта — яго лёс. І калі так усё прымаеш, то ў цябе няма часу заўважаць, кубак памыты ці не, хто каму дапамог ці не дапамог. Падобныя рэчы адыходзяць на другі план. Ты проста шануеш час, праведзены разам, асабліва цяпер, калі ўвялі новую сістэму здзекаў — асуджаць на суткі і не забіраць адразу. Калі знаходзішся ў пастаянным чаканні, што яго могуць затрымаць. У гэты час у нас самыя ўтульныя сямейныя вечары. Таму — ну як ты будзеш сварыцца, калі яго заўтра могуць на месяц забраць?

*— Ты шмат кажаш пра лёс і пакліканне Паўла. А ты сама, звязаўшы сваё жыццё з ім, не здрадзіла сваім памкненням?*

— Я часта задаю сабе пытанне: калі б Паша не зрабіў мне прапанову, дзе б я зараз была і што было б са мной? Тое, як склаўся мой лёс, — гэта найлепшы варыянт, бо я за час нашага шлюбу шмат працавала і шмат дасягнула. Я развілася ў такіх сферах, у якіх не развівалася б, калі б лёс склаўся неяк па-іншаму. Мы за гэты час нарадзілі дваіх дзетак. Амаль кожныя паўгода мы робім нейкія культурніцкія рэчы: гэта і выданне «Падзейніка» — ілюстраванага штодзённіка па-беларуску, і чытанкі для дзетак «Беларуская хрысціянская азбука». Пастаянна выходзяць Пашавы кнігі. Зараз выйшаў дыск «Беларускі хрысціянскі хіт», які распаўсюджваецца ў цэрквах дзеля папулярызацыі беларускай мовы. Пачалася Няспынная малітва за Беларусь, якую я асабіста лічу самым важным з таго, што змагла зрабіць. Бо малітва за краіну несупынна ідзе ўжо пяць гадоў. Пачала працаваць інтэрнэт-крама беларускіх падарункаў з хрысціянскім зместам Kroplia.by.

Усё гэта — тое, што я вельмі люблю. Без Пашы я не знайшла б так хутка свайго паклікання. Менавіта ён паказаў мне любоў да Беларусі, паглыбіў маю веру. Я вельмі рада, што так ёсць. У мяне няма адчування, што я, дапамагаючы яму, нечага недаатрымоўваю ці не паспяваю. Наадварот, выхоўваючы дзіця, даглядаючы дом, дапамагаючы яму, я паспяваю яшчэ нешта рабіць і пры гэтым добра пачувацца. Там, дзе я цяпер знаходжуся, я адчуваю сябе вельмі шчаслівым чалавекам.

*— Але кожнай жанчыне патрэбны час на сябе. Ці ёсць ён у цябе і як ты адпачываеш ад штодзённых клопатаў?*

— Бывае па-рознаму — ёсць простыя дні, ёсць складаныя. У штодзённых сямейных клопатах трэба ўвесь час расстаўляць прыярытэты. Сям'я, муж, сын для мяне на першым месцы. Але я ведаю, што ніколі б не змагла займацца толькі сям'ёй, мне ўвесь час хочацца змяняць свет і па-за межамі свайго дома. Мне дапамагае змена дзейнасці, а калі Паша дома, то я ўпэўнена, што ён у любы момант зможа ўзяць на сябе Францішка і я змагу адпачыць.

*— Ты ў любым выпадку падтрымліваеш мужа, нават калі ў чымсьці з ім не згодная?*

— Канечне, не ўсё так ідэальна, я пастаянна «капаю» яму, што, можа, лепш так не рабіць ці гэтак. Але ён вельмі ўпэўнены ў сваіх дзеяннях. Сварыцца? Гэта не дае ніякага выніку. Казаць, як яму трэба рабіць? Ён разумны мужчына, яму больш за сорак гадоў, ён праходзіў праз усё гэта дзясяткі разоў, ведае людзей, з якімі працуе, сітуацыі, абставіны. Ён паступіць больш мудра, чым я магу яму падказаць. Дзесьці я прашу яго быць больш акуратным. Але ён не будзе рызыкаваць, калі бачыць, што гэта не патрэбна.

*— У хрысціянскай традыцыі, прынамсі, праваслаўнай, існуе пасыл, што муж павінен жонку любіць, а жонка мужа — баяцца. Як гэта разумееце вы і ці прытрымліваецеся такога ў сваёй сям'і?*

— Мне здаецца, «баяцца» тут ужыта ў сэнсе «паважаць», аддаваць мужу кіраванне справамі па-за домам. Бо дома, хутчэй, жонка — менеджар. А па-за домам і датычна астатняга слова ў прыняцці рашэнняў — яно павінна быць за мужам. Бо мужчына, прынамсі, у нашай сям'і, бліжэй да Госпада ў сэнсе адказнасці. Дзесьці я чытала, што мужчына ніколі не зможа зразумець жанчыну ў яе адзіноце, толькі Госпад. А жанчына ніколі не зможа зразумець мужчыну ў яго адказнасці — толькі Госпад.

*— А ў вашай сям'і ёсць падзел абавязкаў?*

— Ён, хутчэй, традыцыйны. На мне — дом, гатаванне, Францішак часцей за ўсё. Паша адказвае за фінансы і справы па-за домам. Але гэта не выглядае так, быццам ён зусім не падыходзіць да пліты. У сям'і, дзе любяць, калі нехта бачыць, што патрэбная дапамога, то ідзе і спакойна дапамагае.

*— Павел здзіўляў цябе калі-небудзь у гаспадарчых справах?*

— Ён здзіўляў мяне на працягу двух гадоў у Купліне, калі прымаў мяне як госцю. Колькі разоў на месяц па нядзелях ён гатаваў для мяне розныя стравы, можна сказаць, шыкоўныя ў тых умовах. Накрываў вельмі прыгожы стол, заўжды быў прыбраны пакой — ён укладаў у гэта душу. Пасля ён здзівіў і натхніў мяне тым, што прысутнічаў на родах. А яшчэ за пяць гадоў ён ні разу не папракнуў мяне, быццам я нешта зрабіла альбо не зрабіла. Мне ў яго гэтаму вучыцца і вучыцца! Калі ён бачыць, што я пачынаю стамляцца, ён бярэ на сябе Францішка, і я магу ісці, куды трэба.

*— Якую будучыню вы хочаце бачыць для сына?*

— Мы хочам яго навучыць самастойна прымаць рашэнні, стараемся максімальна тлумачыць яму нейкія рэчы. Нам не важна, будзе ён вядомым грамадскім дзеячам ці дворнікам — галоўнае, каб ён быў вернікам, служыцелем і сумленным чалавекам. І яшчэ зараз мы марым, каб ён змог хадзіць у садок Хрысціянскага сацыяльнага цэнтра.

**Ты проста шануеш час, праведзены разам, асабліва цяпер, калі ўвялі новую сістэму здзекаў — асуджаць на суткі і не забіраць адразу. Калі знаходзішся ў пастаянным чаканні... Ну як ты будзеш сварыцца, калі яго заўтра могуць на месяц забраць?**

### «Калі Пашу забіраюць, адбываецца агульнасямейная мабілізацыя»

*— Як спраўляешся з Францішкам і гаспадаркай, калі Паўла няма?*

— Калі Пашу забіраюць на суткі, адбываецца агульная сямейная мабілізацыя і стаіць чарга, хто з бацькоў прыедзе хутчэй. Няма нават ніякай размовы, што я застануся адна. Сябры таксама дапамагаюць. Межаў людской падтрымкі ў гэты час проста няма. І гэта для мяне кожны раз — цуд. Бываюць такія гісторыі, што без слёз распавядаць немагчыма. Апошнім часам я стала запісваць, каму трэба падзякаваць і што трэба расказаць Пашу з такіх мілых гісторый.

*— Але ці адразу твае бацькі прынялі Паўла? Не было страхаў, што ён старэйшы, што апазіцыйны палітык?*

— Шмат усяго было, але нават я больш перажывала і баялася сказаць пра яго бацькам. Аднойчы ў мяне на працы выключыўся тэлефон, а калі я яго ўключыла, было 25 непрынятых выклікаў ад мамы. Яна падумала, нібыта мяне ўжо арыштавалі і пасадзілі. Але гэта ўсё было таму, што яны не ведалі Пашу і мелі свае ўяўленні наконт таго, як працуе «крывавы рэжым». А калі Паша прыехаў пазнаёміцца, то хапіла дзесяці хвілін, каб усе страхі перацяклі ў прыгожую сямейную размову.

*— Як вас змяніла бацькоўства?*

— Мяне здзівіла тое, якія стасункі ў Пашы з Францішкам. Гэта зусім іншая любоў таты да сына, не такая, як паміж намі. Для мяне нараджэнне дзіцяці — самы лепшы трэнінг па самаразвіцці. Ты знаходзіш у сабе столькі энергіі, пра якую нават не ведала, зусім па-іншаму плануеш час, расстаўляеш прыярытэты. І яшчэ адна рэч. У Бібліі ёсць такія словы: «Праз Тваю душу пройдзе меч». Гэта словы, сказаныя Марыі, Маці Ісуса. У мяне гэтыя словы вельмі адгукаюцца, я адчуваю — пасля нараджэння дзяцей маё сэрца мне ўжо да канца не належыць.

*— Якой ты бачыш сваю сям'ю ў будучыні?*

— Ёсць некалькі рэчаў, пра якія мы марым і змены ў якіх прывядуць да зменаў у нашай сям'і. Гэта змена ўлады ў Беларусі. Мне хацелася б, каб праз дзесяць год Паша свае сілы ўкладаў у тое, каб станоўча змяняць краіну, а не ламаць сістэму. Я мару, што ў нас ёсць дом і вялікая сям'я — яшчэ двое або трое дзяцей.

*— Як вы любіце разам бавіць час і адпачываць?*

— Адпачываць мы любім ва Унорыцы, у Пашавым радавым гняздзе па татавай лініі. Гэта вёска на беразе Дняпра, і мы туды стараемся кожнае лета ездзіць. Раз на год на гадавіну шлюбу мы робім сабе невялікае свята — ходзім у кавярню, выбіраем нешта беларускае.

*— Вы святкуеце 14 Лютага?*

— Для мяне гэта звычайны дзень, але Паша больш звяртае на яго ўвагу, дорыць мне кветкі.

*— А падарункі адно аднаму дорыце?*

— Мы дорым падарункі на дні народзінаў і на Раство. Але часам бываюць і спантанныя падарункі. Мы ведаем, што кожны з нас любіць. Калі я бачу геаграфічны атлас — любімая для Пашы рэч — я набываю і з радасцю дару. А Паша спантанна дорыць мне кветкі часцей за ўсё. Была забаўная гісторыя, калі яго мінулы раз адпусцілі з сутак. Ён у сем раніцы ў чаравіках без шнуркоў, з кешарам, такі сабе бадзяга, зайшоў у пераход каля дома набыць кветкі. А прадавачка паглядзела на яго і кажа: «Что, домой вернулся?»

**Фота Дзіяны Серадзюк і з сямейнага архіву Севярынцаў**

14 лютага 2020 | № 6 (665) Новы Час

# Ганна Булда: Аднойчы грамадства зразумее, што аднаўленне гістарычнай спадчыны патрэбнае ўсім

Ганна ВАРОНКА

**Ці мог падумаць апошні канцлер Вялікага княства Літоўскага Іахім Храптовіч, што яго палац ранняй працы італьянскага архітэктара Джузэпэ Сака ў стылі позняга барока і ранняга класіцызму перажыве дзве сусветныя вайны, але будзе разабраны на цэглу ў 1950-я гады? А сабраная ім самая вялікая прыватная бібліятэка ў Беларусі пакіне радзіму?**



Ганна Булда з Марыён Швезінгер



Ганна Булда з Гельмутам Фікелем

Ці хоць на хвілінку магло прымроіцца графу, што не пройдзе і некалькіх стагоддзяў — і ў сённяшнім аграгарадку Шчорсы Навагрудскага раёна будуць фактычна знішчаны парэшткі яго ўладанняў: вінакурні, заводы па вытворчасці цэглы і дрэнажных труб, маслабойня, млыны, вадзяная лесапільня, верф і рыбныя сажалкі?

Некалькі гадоў таму мінскі менеджар па продажах Ганна Булда прачнулася ад дзіўнага сну: жанчыне прымроілася, што яна павінна аднавіць старажытны палац. Гэты сюжэт больш падобны да сцэнарыя містычнага фільму, але ўсё адбывалася насамрэч. Ганна пачала шукаць «свой» палац. І праз некаторы час знайшла маёнтак Храптовічаў у аграгарадку Шчорсы.

— Як толькі трапіла на гэтае месца, яно як быццам адгукнулася. Калі я туды прыехала, надвор’е было жудаснае: хлюпаў вясновы снег, усё мела пануры выгляд, але ў мяне адразу з’явілася адчуванне — менавіта гэтым трэба займацца.

## Пра пошук інвестараў

Ганна пачала шукаць інвестараў. Здавалася б, самы просты шлях: чалавек выдаткоўвае грошы, а потым атрымлівае прыгожы маёнтак. Аднак рэстаўрацыя патрабуе значных сродкаў. Ці гатовы хтосьці ахвяраваць іх, каб атрымаць дывідэнды праз некалькі дзесяцігоддзяў?

— Калі я зразумела, што інвестараў не знайду, узнікла ўражанне — трэба рабіць самой, а як дакладна — не ведаю. Так выйшла, я тады вучылася ў Беларускім дзяржаўным універсітэце культуры і мастацтваў. Там мне падказалі звярнуцца да члена фонду імя Міхала Клеафаса Агінскага Паўла Сапоцькі, які параіў адкрыць уласны фонд. Такім чынам якраз да абароны дыплома ў 2017 годзе я стварыла Мясцовы культурна-асветніцкі фонд «Шчорсы і Храптовічы». З таго часу жыву па прынцыпе: ставіш дэдлайн і адразаеш шляхі да адступлення. Потым проста падзецца няма куды — калі не так, то інакш, але задачу выконваеш.

## Пра аўкцыён

Будынкі палацавага комплексу Храптовічаў знаходзяцца ў камунальнай уласнасці, а ўся сядзіба належыць чатыром уладальнікам. Булда, як кіраўнік грамадскай арганізацыі, не мае правоў валодання, таму ўплываць на справы можа вельмі апасродкавана.

Акрамя таго, ужо чацвёрты год мясцовыя ўлады выстаўляюць маёнтак на аўкцыён як «комплекс будынкаў, збудаванняў, інжынерных сетак (фрагменты ансамбля былога палаца Храптовічаў)». Спачатку кошт лота складаў 254 тысячы 297 рублёў 29 капеек (прыкладна 116,5 тыс. долараў), але з часам знізіўся. Цяпер сядзібу можна набыць за 50 тысяч 859 рублёў 46 капеек (прыкладна 21,2 тыс. долараў). Кошт не мяняўся два гады.

— Пакуль аб’екты знаходзяцца на аўкцыёне, мы нічога не можам з імі рабіць. Яшчэ тры гады таму флігель, адзіны, які нядрэнна захаваўся, выглядаў прыстойна. Але за гэты час зліўная сістэма зусім парушылася: вада льецца па сценах, абвальваецца тынкоўка, псуецца фундамент, з’яўляецца цвіль. Сёлета сумесна з райвыканкамам падалі праект па рамонце вяндлярні на конкурс Праграмы трансгранічнага супрацоўніцтва «Польшча — Беларусь — Украіна 2014—2020 гады». Я знайшла партнёраў у Польшчы, усё ўзгаднілі. У працэсе падрыхтоўкі да конкурсу ў райвыканкаме мяне запэўнілі, што аб’екты знятыя з аўкцыёну. 15 студзеня мы падаем заяўку, а праз дзесяць дзён высвятляецца — ніхто нічога з аўкцыёну не здымаў. Кажуць: «Калі праект выйграе, тады здымем». Але калі на конкурсе праверяць, што заяўленая для рэстаўрацыі забудова прадаецца, шанцаў на перамогу няма. Нават не ведаю, як на гэта рэагаваць: быццам бы выканкам зрабіў усё, каб мы ўзялі ўдзел у конкурсе, а потым... упс!

## Пра бібліятэку

У Шчорсах знаходзілася легендарная бібліятэка, якую на працягу ўсяго жыцця збіраў апошні канцлер ВКЛ, прадстаўнік беларускага роду Храптовічаў Іахім Ігнаці Літавор. Граф літаральна паляваў на каштоўныя выданні: скупіў бібліятэку рымскага кардынала Іосіфа Імперыялі ў 1737 годзе; набыў рэдкія кнігі заснавальніка Варшаўскай публічнай бібліятэкі епіскапа Іосіфа Залускага — пасля таго, як Кацярына II адправіла таго ў ссылку; выданні каталіцкіх манастыроў, што ліквідавалі ў Галіцыі пасля аб’яднання з Аўстрыяй. Кніжныя агенты Храптовіча набывалі каштоўныя экзэмпляры па ўсёй Еўропе.

Кніжніца была публічнай, а графскі маёнтак стаў своеасаблівым культурна-асветніцкім цэнтрам. У розныя часы там працавалі над сваімі творамі Яўхім Лялевель, Юзаф Ярашэвіч, Уладзіслаў Сыракомля. Адам Міцкевіч некалькі разоў на год прыязджаў, каб збіраць матэрыял для паэмы «Конрад Валенрод». У Шчорсах ён напісаў знакамітую паэму «Гражына». Ян Чачот увогуле працаваў у маёнтку бібліятэкарам. Пасля



Валанцёрскі летнік 2019



Валанцёрскі летнік 2019

смерці Іахіма Храптовіча яго сын Адам працягнуў традыцыю бацькі.

Паводле этнографа і гісторыка Аляксандра Ельскага, кніжны збор налічваў 20 тысяч асобнікаў, куды ўваходзілі: ліставанне Багдана Хмяльніцкага з польскімі гетманамі, арыгінал маніфеста Хмяльніцкага з казакамі, дзённік польскага пасольства ў Маскве ў 1686 годзе, дзённік Марыны Мнішак, калекцыя каштоўных карт, падараваных Храптовічу апошнім каралём польскім і вялікім князем літоўскім Станіславам Аўгустам Панятоўскім... Лёс бібліятэкі сумны: адна частка кніг была спалена савецкай уладай у 1939 годзе, другая знаходзіцца ва Украіне. Узнаўленне бібліятэкі — справа ўрадавых перамоў.

— Асобнікі ў Нацыянальнай бібліятэцы Украіны імя Вярнадскага ў Кіеве ніхто нават не падлічваў. Праўда, частка кніг адлічбаваная (нібыта плануюць адлічбаваць і астатнія). Аднаўленне часткі збору тэарэтычна магчымае: кіеўская бібліятэка перанесла дзве эвакуацыі, кнігі хавалі падчас спалення ў Любчы ў 1939 годзе. То-бок, некаторыя экзэмпляры разышліся па прыватных калекцыях, нешта недзе пыліцца, і людзі нават не падазраюць пра іх каштоўнасць. Калі знойдуцца навукоўцы, якія захопяцца пошукам кніг з калекцыі Храптовічаў, можна будзе сапраўды сказаць — аднаўленне бібліятэкі быць!

## Пра знойдзеныя кнігі

Тры кнігі са славутай бібліятэкі графаў Храптовічаў вярнуліся ў Шчорсы сёлета ў студзені. Іх ахвяравалі фонду Марыён Швезінгер і Гельмут Фікель, дачка і ўнук Германа Швезінгера — чалавека, які ўратаваў артэфакты. Дзве кнігі на французскай мове: «Грамадзянская гісторыя каралеўства Неапаль у перакладзе з італьянскай П'ера Джанонэ» (са штампам Іахіма Храптовіча), «Расійскія палітычныя, літаратурныя, гістарычныя і некралагічныя дзённікі» (са штампам Адама Храптовіча), трэцяя кніга — білінгва, зборнік лацінскіх і нямецкіх одаў (штамп адарваны). Экспертызу каштоўных асобнікаў неўзабаве правядзе Нацыянальная бібліятэка Беларусі.

У час Першай сусветнай вайны Герман Швезінгер апынуўся ў Шчорсах. Ён схаваўся ад артабстрэлу ў разгромленым палацы Храптовічаў і там натрапіў на кнігі. Разумеючы іх каштоўнасць, перапраўіў у Германію.

— Ён разумеў каштоўнасць кніг, бо быў адукаваным чалавекам, выкладаў філасофію ва ўніверсітэце. У свой час пацярпеў ад нацыстаў — быў у Бухенвальдзе. Перад смерцю завяшчаў дзецям перадаць кнігі тым, каму яны належаць. Цудам яго нашчадкі знайшлі і перадалі іх у дар фонду. Калі мне прыйшоў ліст, я думала, што гэта розыгрыш. Аднак усё аказалася праўдай!

Ганна Булда сустрэлася з нашчадкамі Швезінгера ў Германіі. Амбасада Рэспублікі Беларусь дала супрацоўніка для суправаджэння і перакладу.

— Асаблівая эпапея, як я збірала дакументы: звярталася ў Міністэрства замежных спраў, амбасаду, атрымлівала дазвол у Мінкульце на ўвоз. Але ўрэшце кнігі на радзіме. Спадзяюся, гэта паслужыць «штуршком» для кагосьці. Можа, у прыватных бібліятэках ляжаць асобнікі з кніжніцы Храптовічаў і людзі захочуць ахвяраваць іх фонду. Магчыма, калі-небудзь у нас атрымаецца сабраць некаторую частку бібліятэкі, абавязкова адкрытую для людзей. Бо граф Храптовіч хацеў, каб кнігі былі ў агульным доступе. У нашай амбасадзе вельмі сумняваліся, ці не схаваю я гэтыя кнігі ў сябе пад коўдрай, ці не прадам. Давялося даказваць адваротнае.

## Пра мясцовых жыхароў

Стаўленне мясцовых жыхароў да аднаўлення сядзібы ў Шчорсах таксама неадназначнае і дэманструе ўсю парадаксальнасць беларускай душы. Часта можна пачуць ад іх: «Трэба было пачынаць рэстаўрацыю гадоў трыццаць таму, калі яшчэ нічога не развальвалася!», «Што ўжо з гэтымі руінамі рабіць, прасцей знесці!», «Што тут можна зрабіць — яно нікому непатрэбнае, калі б было неабходнае, то даўно адрадзілі б!».

Але ў той жа час, калі фонд індывідуальна просіць пра дапамогу, ніколі не адмаўляюць. Мясцовыя дапамагаюць прадуктамі: у час валанцёрскага летніка таемна прыносілі мяхі з гароднінай і іншай ежай, пакідалі на бачным месцы, тэлефанавалі і пыталіся, ці трэба нарыхтоўкі ў слоіках ці яшчэ што.

— Калі бачу вынікі зробленага, адчуваю сябе шчаслівым чалавекам. Як нядаўна пасля работ па ачыстцы Мураванкі (гаспадарчага двара — заўв. рэд.), калі людзі прыязджалі і казалі: «Вау, цяпер тут можна хадзіць, нарэшце бачныя сцены і кармушкі, пра якія ніхто нават не падазраваў!» Хаця часам вельмі цяжка знайсці адчуванне шчасця, асабліва калі ў цябе ляцяць «гнілыя памідоры» з розных бакоў — няпроста ад іх ухіляцца. Адчую сябе бязмерна шчаслівай, калі дамовімся з раённай уладай пра падтрымку ўжо зробленага. Разумею, цяжка знайсці сродкі ў бюджэце. Але штогод можна планаваць маленькія сумы на пэўныя працы. Штосьці можа быць выдаткавана з абласнога і рэспубліканскага бюджэтаў. Мы таксама збіраем сродкі праз плацёжную сістэму на сайце фонду і адсочваем усе конкурсы і гранты, у якіх хоць нейкім чынам можам паўдзельнічаць.

## Пра валанцёрства

Каб перайсці да сур'ёзных даследаванняў парку, будынкаў, праводзіць батанічныя вышуканні і археалагічныя раскопкі, вельмі важна цалкам расчысціць тэрыторыю — гэтым і займаюцца валанцёры. На жаль, сродкі ў фонд паступаюць нерэгулярна.

— Каб перайсці да рэстаўрацыі, патрэбная грунтоўная і рэальная канцэпцыя. Да яе стварэння неабходна далучыць 15—20 спецыялістаў: гісторыкаў, эканамістаў, архітэктараў-рэстаўратараў, ландшафтнікаў, батанікаў... І толькі пасля складзенай і зацверджанай у Мінкульце канцэпцыі таго, як павінна выглядаць сядзіба, мы зможам паэтапна пачынаць рэстаўрацыю. Зноў-такі, усё ўпіраецца ў сродкі. Людзі, як правіла, не хочуць даваць грошы на прамежкавы вынік: ну, прыбралі вы тэрыторыю, а сцены ўсё роўна развальваюцца. Збоку можа падавацца, што за час дзеяння фонду мала што зроблена. А з пункту гледжання рэальных умоў, у якіх мы знаходзімся, зроблена вельмі шмат. У складаныя хвіліны, калі думаеш, а што ж рабіць далей, можа, гары яно ўсё гарам, я ўспамінаю: а як жа тыя людзі, якія ў мяне паверылі, уклалі ў фонд свае час і сілы? Таму не магу апусціць рукі, пакуль трымаюся.

У культурна-асветніцкім фондзе «Шчорсы і Храптовічы» на сталай аснове працуюць больш за дзесяць чалавек. Але калі палічыць усіх, хто дапамагаў фонду на тым ці іншым этапе, будзе некалькі соцень.

— Сёлета перад летнікам атрымалі дазвол у Мінкульце на працы ў парку. Зачысцілі з валанцёрамі вялікую дзялянку ў раёне Старога гасцінца і воднага канала. Дапамагала навагрудскае ЖКГ: перапрацоўвалі на дранку галлё, вывозілі вялікія бярвенні. Ачысцілі знешні контур Муранкі, яна стала цалкам адкрытая. Цяпер асноўная мэта — накрыць дахамі вежы Муранкі. З'явіўся мецэнат, які пажадаў ахвяраваць на гэта грошы. Праўда, сродкаў хапае толькі на частку матэрыялаў, таму прыйшлі да высновы, што танней будзе рабіць не часовы дах, а падобны да аўтэнтычнага — адразу і кансервацыя, і частковая рэстаўрацыя. Муранка нейкім цудам не ўключана ў спіс гісторыка-культурных каштоўнасцяў і аб'ектаў, што выстаўленыя на аўкцыён, — мы рэальна можам займацца яе рэстаўрацыяй. Па нашых падліках, каб накрыць дзве вежы, спатрэбіцца каля 15 тысяч беларускіх рублёў. Гэта не такая ўжо ахавая сума для краўдфандынга, мы аптымістычна настроены.

Валанцёрскі летні лагер у Шчорсах працуе ў сярэднім два тыдні, то-бок, за лета маёнтку дапамагаюць тры розныя групы.

— Валанцёры, акрамя таго, што працуюць бясплатна, укладваюць велізарную колькасць сіл і часу — сёлета нават на харчаванне скідваліся. Як ні стараліся, мы не сабралі такой сумы, каб забяспечыць ім хаця б міску супу, хапіла толькі на транспартныя выдаткі. Калі б такіх цудоўных хлопцаў і дзяўчын былі тысячы, а людзей, гатовых ахвяраваць пяць рублёў на месяц — мільёны, колькі б гістарычных аб'ектаў у Беларусі мы маглі б аднавіць нават без дапамогі дзяржавы! Спадзяюся, аднойчы наша грамадства зразумее, што аднаўленне гістарычнай спадчыны патрэбнае нам усім. Як эфект разбітай шыбы: калі адна пабітая, нехта неўзабаве разаб'е і ўсе астатнія. Калі ў памяшканні чыста і акуратна, то і людзі стараюцца смеціць менш.

Кожны з нас, хто заклапочаны зберажэннем нашай унікальнай спадчыны, можа дапамагчы Мясцоваму культурна-асветніцкаму фонду «Шчорсы і Храптовічы». Інфармацыю пра гэта вы знойдзеце на сайце www.chreptowicz.com.

**Фота Ганны Булда, з сямейнага архіву Швезінгераў з сайта chreptowicz.com**




**Грамадзянская гісторыя каралеўства Неапаль у перакладзе з італьянскай П'ера Джанонэ**




**Белы дом. Валерый Юдзін, 2010-я гг.**




**Вяндлярня. Альфрэд Мікус, 2017г.**




**Галоўны фасад палаца Храптовічаў у час Другой сусветнай вайны, 1943 г.**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ПОЛЬШЧА. Якой магла быць Варшава

Заклікі варшаўскіх уладаў да маштабнай рэканструкцыі цэнтру сталіцы праз савецкую спадчыну падштурхнула гісторыкаў узгадаць папярэднія планы перабудовы горада. Напэўна, самую вялікую рэформу польскай сталіцы агучылі гітлераўцы пасля акупацыі краіны ў 1939-м. Праз год быў распрацаваны праект пад назвай Die neue Deutsche Stadt Warschau (Новы нямецкі горад Варшава). Перш за ўсё, яго аўтары збіраліся пазбавіць Варшаву статусу сталіцы. Новую Варшаву бачылі невялікім горадам з насельніцтвам 150 тыс. чалавек на ўсходняй мяжы Рэйху. Цэнтр жыцця горада планавалася перанесці на левы бераг Віслы, дзе збіраліся стварыць асобны ўтульны квартал для немцаў. Правы бок Віслы прызначаўся для казармаў, дзе павінны былі жыць мясцовыя. Сумны лёс чакаў гістарычны цэнтр Варшавы, які фашысты збіраліся цалкам знішчыць. На месцы каралеўскага замка павінен быў паўстаць Палац нацыянал-сацыялістычнай партыі як сімвал краху польскай дзяржаўнасці. Прычым гэта быў яшчэ мяккі варыянт. На хвалі поспехаў на Усходнім фронце ў Берліне задумаліся пра перанос усходняй мяжы Рэйху прыкладна на 1000 км углыб СССР. У такім разе 17 млн тагачасных палякаў чакала высылка ў Сібір. Зрэшты, правал пад Сталінградам прымусіў нацыстаў назаўжды забыць пра «Новы нямецкі горад Варшава».

**Паводле польскай прэсы**

### УКРАІНА. Вораг нумар адзін

Яўген Брагар, 25-гадовы дэпутат ад партыі «Слуга народа», які параіў пенсіянерцы прадаць яе сабаку Шарыка, каб заплаціць за газ, на вачах становіцца самым несімпатычным украінскім палітыкам. Гэтаму спрыяў яго чарговы пракол. 8 лютага нардэп паабяцаў прыехаць у вёску Аджамка на Кіраваградчыне, дзе жыве пенсіянерка, якая атрымала ад парламентарыя параду наконт сабакі. Аднак у прызначаны дзень ён у Аджамцы так і не з'явіўся. Жыхары, якія сабраліся, каб пагутарыць з дзёрзкім дэпутатам, яго не дачакаліся. Пасля гэтага ў каментарах сацсетак абурэнне народа ўспыхнула з новай сілай. На сайце прэзідэнта Украіны ўжо з'явілася петыцыя з патрабаваннем адаслаць Брагара ў войска, паколькі яму 25 гадоў, а гэта — узрост, калі ўкраінцы яшчэ праходзяць службу. Ёсць нават феерычны заклік да ўкраінскіх дзяўчат — не выходзіць за Яўгена замуж. Трэба сказаць, што Брагара можна зразумець. Напярэдадні меркаванага візіту ў Аджамку ў інтэрнэце гучалі заклікі злавіць дэпутата і пасадзіць на ланцуг замест Шарыка.

**Паводле ўкраінскай прэсы**

### КАЗАХСТАН. Каронавірус і мова

Нечаканыя філалагічныя дэбаты ў Казахстане выклікала эпідэмія каронавірусу ў суседнім Кітаі. Група нацыяналістаў абурылася тым, што ў рамках прафілактыкі каронавірусу па тэлебачанні гучаць заклікі насіць медыцынскія маскі. Між тым, на іх думку, у казахскай мове ёсць свой аналаг назвы медыцынскай прылады, якае забяспечвае бар'ер для распаўсюджання інфекцый. Гэта слова «бетпердэ». Як вынік, пачаліся гарачыя дэбаты. У іх усё ж перамаглі аматары назвы «маска». Іх галоўны аргумент — у мусульманскіх народаў слова «маска» застаецца без зменаў, як запазычанне з еўрапейскіх моў. Не кажучы пра тое, што, магчыма, слова ўзыходзіць да арабскага «maskarah» («блазан»). Але канчатковая кропка яшчэ не пастаўлена. Аматары ўжывання слова «маска» цяпер заклікаюць у працэсе рэформы казахскай мовы браць пад увагу перш за ўсё фактар лёгкасці вымаўлення.

**Паводле казахскай прэсы**

### КАНАДА. Прынц? Дзякуй, не трэба



Ледзь не ўвесь свет назірае за канфліктам унутры брытанскай каралеўскай сям'і, які спарадзіў дэмарш прынца Гары і яго жонкі Меган. Тыя кінулі выклік архаічным традыцыям сямейства Віндзар, пераехаўшы ў канадскі Ванкувер. Між тым самі канадцы, як высвятляецца, далёка не ў захапленні ад такога выбару. Нягледзячы на тое, што прысутнасць сямейства дадае прывабнасці мясцоваму турыстычнаму рынку, антыманархісцкія настроі яўна дамінуюць у грамадстве. 77 % канадцаў, паводле апошніх апытанняў, супраць таго, каб Канада фінансавала пражыванне арыстакратаў. Некаторыя нават баяцца, што прысутнасць пары нясе прамую пагрозу суверэнітэту краіны, якая фармальна ўсё яшчэ падпарадкоўваецца брытанскаму манарху. У той жа час, 36 % канадцаў пазітыўна ставяцца да манархіі. Наяўнасць палярных поглядаў на прыезд Гары і Меган, на думку палітолагаў, у перспектыве можа ператварыцца ў адзін з чыннікаў палітычнай канфрантацыі.

**Паводле канадскай прэсы**



Фота www.interfax.ru

# Як уступіць у Еўрасаюз?

Алег НОВІКАЎ

**Еўракамісія распрацавала новыя правілы ўступлення краін у Еўрапейскі Саюз. Стаць сябрам ЕС будзе больш складана, аднак шанец ёсць.**

Дакумент пад назвай «Паляпшэнне працэсу пашырэння — надзейныя еўрапейскія перспектывы» быў агучаны 5 лютага. І перш за ўсё яго змест павінен быў прасвятліць сітуацыю, якая паўстала тры месяцы таму. Тады ЕС раптам прыпыніў пачатак перамоў пра сяброўства з Паўночнай Македоніяй і Албаніяй.

Гэтае рашэнне было прадыктавана Францыяй, якая сыходзіла з таго, што згаданыя балканскія краіны не дасягнулі дастатковага прагрэсу ў правядзенні рэформаў, накіраваных на барацьбу з карупцыяй і ўмацаванне вяршэнства закона. Адначасова Эмануэль Макрон заклікаў да фундаментальнай рэформы працэдуры прыёму ў члены ЕС. На яго думку, толькі пасля такога рэфармавання можна будзе вярнуцца да пытання перспектывы сяброўства балканскіх краін.

У выніку Брусель быў вымушаны распрацаваць новыя стандарты, якія і пабачылі свет 5 лютага. Сцісла навацыі наступныя — краіны, якія прэтэндуюць на сяброўства ў Еўрасаюзе, павінны больш актыўна праводзіць рэформы. У адваротным выпадку ім пагражаюць штрафныя санкцыі і больш доўгі працэс перамоў наконт уступлення. Таксама прапануецца стварэнне дадатковых стымулаў для дзяржаў-прэтэндэнтаў, якія дэманструюць пазітыў. Ёсць ідэя праводзіць рэгулярныя саміты «ЕС — Заходнія Балканы», а таксама дапускаць міністраў з краін рэгіёну да пасяджэнняў Еўрасаюза, якія іх тычацца.

Прааналізаваўшы дакумент, эксперты робяць галоўным чынам тры высновы. Па-першае, працэс уступлення становіцца больш складаным і бюракратычным. Дастаткова сказаць, што еўрабюракраты ўводзяць у правілы прыёму такое незразумелае азначэнне як «зваротнасць працэдуры прыёму», або магчымасць праводзіць на нейкім этапе аўдыт рэформаў, якія ўжо былі праведзеныя.

Уводзіцца сем кірункаў, па якіх вядуцца перамовы паміж ЕС і краінай-кандыдатам. Прычым прагрэс па кожнай групе ацэньваецца асобна. Рэгрэс у нейкай вобласці дазваляе перагледзець папярэднія высновы і патрабаваць зрабіць працу зноў. Некаторыя правы надаюцца асобным дзяржавам, якія могуць уносіць дадатковыя патрабаванні для кандыдата.

Па-другое, новая еўрапейская стратэгія пашырэння яўна арыентаваная на Заходнія Балканы. У Бруселі не хаваюць, што дзяржавы-члены ЕС павінны ўхваліць дадзеную прапанову адначасова з адкрыццём перамоў з Паўночнай Македоніяй і Албаніяй да майскага саміту «ЕС — Заходнія Балканы» ў Заграбе.

У выпадку ўхвалення новая формула будзе прымяняцца да Албаніі, Босніі і Герцагавіны, Косава і Паўночнай Македоніі. Гэта без уліку Сербіі ці Чарнагорыі, якія пачалі перамовы пра далучэнне з Бруселем. Храналагічна цяжка сказаць, калі закончыцца балканская эпапея.

**З улікам таго, што еўрапейскі арыенцір з'яўляецца падмуркам лакальнай нацыянальнай ідэі, адмова ЕС ад стратэгіі пашырэння можа мець геапалітычныя наступствы**

Па-трэцяе, новы падыход Еўрасаюзу да пашырэння робіць незразумелымі еўрапейскія перспектывы Малдовы, Украіны і Грузіі — клубу краін, якія мараць зайсці ў аб'яднанне пасля Балканаў. З улікам таго, што еўрапейскі арыенцір з'яўляецца падмуркам лакальнай нацыянальнай ідэі, адмова ЕС ад стратэгіі пашырэння можа мець адпаведныя, у тым ліку геапалітычныя, наступствы.

Не дзіўна, што навіны з Бруселю актыўна каментуюць у той жа Украіне, дзе праеўрапейскі азімут пры Парашэнку быў замацаваны ў Канстытуцыі. Падаецца, той жа лініі трымаецца і Уладзімір Зяленскі, які ў час нядаўняга выступу ў Давосе прапанаваў аўтаматычна запісаць Украіну ў сябры ЕС замест Вялікабрытаніі. У той жа час, шмат хто лічыць, што новы прэзідэнт проста вымушаны дзяжурна агучваць лозунгі Майдану, канцэптуальнай альтэрнатывы якім пакуль няма. У гэтым плане ўкраінскія палітолагі асцярожна кажуць пра нейкі «фінскі» варыянт, калі Украіна атрымае асацыяцыю з ЕС, не будучы фармальна яго сябрам.

Але магчыма, што еўраскептыкам рана святкаваць перамогу. Прэса шмат піша пра нарастаючы канфлікт паміж Парыжам і Берлінам наконт падыходу да Балканаў. Макрону гэты рэгіён, па вялікім рахунку, фіялетавы. «Сёння Макрон пераняў манеру сваіх папярэднікаў грэбліва ставіцца да гэтага рэгіёну (Балканаў), бачачы ў ім пагрозу для будучыні ЕС», — піша Le Monde, каментуючы рашэнне Парыжа замарозіць уступленне Албаніі і Паўночнай Македоніі.

Што тычыцца Германіі, то яна, як лічаць некаторыя, мае комплекс перад балканскімі краінамі праз удзел у развале Югаславіі, які выклікаў перманентныя этнічныя канфлікты. Стабілізацыя Балканаў магчымая ў межах еўраінтэграцыі. Вельмі важная для Германіі і праблема мігрантаў, якія трапляюць у ЕС праз «балканскі маршрут». Такім чынам, працэс экспансіі ЕС на Балканы можа быць дастаткова дынамічным. Гэта, мауляў, з часам зноў зробіць актуальным пытанне новага этапу пашырэння.

У любым выпадку, пасля выхаду Вялікабрытаніі Еўрасаюз павінен быў узяць паўзу для рэвізіі некаторых сваіх прынцыпаў, якая, відавочна, рана ці позна скончыцца.

# Краіна самазабойцаў

Алег НОВІКАЎ

**Як высвятляецца, 75 гадоў таму мела месца не толькі агонія нацыстаў на фронце. Тады ж нацысцкую Германію ахапіла небывалая за ўсе часы еўрапейскай гісторыі хваля самагубстваў.**



Фота www.spzh.news

Абсалютны рэкорд паставілі жыхары горада Дэмін, што цяпер у зямлі Мекленбург — Пярэдняя Памеранія. У сакавіку 1945-га ўсяго за 72 гадзіны тысяча чалавек (прыкладна кожны 15-ты жыхар Дэміна) паспелі звесці рахункі з жыццём. У ход, як і паўсюль, ішоў любы сродак — людзі вешаліся, рэзалі вены, страляліся, тапіліся і глыталі атруту. Прычым часам здзяйснялі суіцыд не індывідуальна, а нават сістэмна. Панавала негалоснае правіла: спачатку бацька сямейства павінен быў забіць жонку і дзяцей, каб пасля самому адправіцца ў лепшы свет.

Увогуле гісторыкі вызначаюць тры этапы эпідэміі суіцыду 1945-га, ахвярамі якой сумарна стала прыкладна 10 тысяч чалавек. Першы этап — пачатак студзеня 1945 года, калі савецкія войскі ўвайшлі на нямецкія тэрыторыі ва Усходняй Прусіі і Сілезіі. На гэтым этапе суіцыдны псіхоз ахапіў простых людзей. Некаторыя жаўнеры, якіх тады адпраўлялі на фронт, прасілі ў родных, каб тыя далі абяцанне пакончыць з сабою.

Другая фаза здарылася ў красавіку — траўні і тычылася чальцоў нацысцкай эліты. У спіс самагубцаў тады ўвайшлі 8 з 41 рэгіянальных партыйных кіраўнікоў, 7 з 47 вышэйшых кіраўнікоў СС і паліцыі, 53 з 554 генералаў арміі, 14 з 98 генералаў Люфтвафэ, 11 з 53 адміралаў. У красавіку 1945 года ўзровень самагубстваў дасягнуў піку. Толькі падчас штурму Берліна наклалі на сябе рукі 3881 чалавек, уключаючы самога Гітлера. Трэцяя фаза адбылася ў першыя месяцы пасля акупацыі краіны, калі некаторыя не вытрымалі новых парадкаў.

Безумоўна, асноўным фактарам суіцыдных настрояў сярод немцаў было набліжэнне фронту. Практычна кожны тагачасны грамадзянін Рэйху так ці інакш супрацоўнічаў з рэжымам і меў рацыю, баючыся помсты з боку жаўнераў армій антыгітлераўскай кааліцыі. Як адзначаў адзін тагачасны нямецкі псіхолаг, тыя самагубствы «не маюць нічога агульнага з псіхічнымі захворваннямі або нейкім маральным і інтэлектуальным адхіленнем. Пераважна яны звязаныя са страхам панесці адказнасць».

Устаноўку на тое, што з прыходам армій саюзнікаў усіх немцаў чакае капут, ахвотна распальвала нацысцкая прапаганда. Асобнай фокуснай групай для ведамства Гебельса былі жанчыны, якім у выпадку краху Гітлера стоадсоткава «гарантавалі» згвалтаванне. Часткова гэтым можна растлумачыць высокі адсотак самагубстваў сярод немак, якім Нюрнбергскі трыбунал па роду іх дзейнасці дакладна не пагражаў.

Цяжка сказаць, ці былі нацысты зацікаўленыя ў «модзе» на самагубствы. Тут маюцца выключна ўскосныя доказы. Амерыканскі часопіс Time не так даўно напісаў пра нейкі тагачасны выпуск Völkischer Beobachter, які праслаўляў «задавальненне ахвяраваць асабістым існаваннем». У лютым 1945-га адзін з пастараў берлінскай царквы казаў нейкаму дацкаму журналісту пра тое, што ўсе яго прыхаджане атрымалі ампулы з ядам. У сакавіку таго ж года англічане передрукавалі нацысцкую прапагандысцкую паштоўку з падрабязнымі інструкцыямі, як павесіць сябе з мінімальнай колькасцю болю. Аднак арыгіналу праклямацыі ніхто пакуль не бачыў.

Акрамя страху перад пакараннем немцамі-самазабойцамі маглі рухаць іншыя чыннікі. Некаторыя з цяперашніх псіхолагаў дапускаюць, што на той момант назіраўся беспрэцэдэнтны выпадак калектыўнай анеміі — страты асноўных каштоўнасцяў, што пакідала людзей без сэнсу жыцця. Лепшы прыклад — Магда Гебельс, якая забіла шасцярых дзяцей, перш чым яна і яе муж атруціліся, паспеўшы пакінуць запіс: «У свеце, які прыйдзе пасля фюрэра і нацыянал-сацыялізму, не варта жыць».

Праўда, ёсць у тэорыі калектыўнай анеміі свае крытыкі. На іх думку, многія вядучыя гітлераўцы былі моцна індактрынаваныя і разглядалі акт самазнішчэння як пасланне будучым пакаленням, праяву вернасці ідэалогіі, што культывавала перавагу смерці над паразай. Сапраўды, часам падыхтоўка да самагубстваў выглядала вельмі пафасна. Так, 12 красавіка 1945 года на апошнім канцэрце Берлінскай філармоніі сябры Hitler Jugend раздавалі слухачам таблеткі з цыянідам.

Аднак часам гераічная поза мела для нацыстаў вельмі драматычныя наступствы. Гісторык Фларыян Хубер апісвае сюжэт Паўля Кітэля. У 1959 годзе 55-гадовы Паўль Кітэль паўстаў перад судом у ФРГ па абвінавачанні ў шматлікіх забойствах у 1945 годзе. Тады ён вырашыў здзейсніць суіцыд, як сапраўдны арыец. Але спачатку застрэліў сваю жонку і двух сыноў. Пасля хацеў скончыць жыццё самагубствам — але аказалася, што ў пісталеце ўжо не было патронаў. Кітэль трапіў у палон у СССР і быў вызвалены толькі ў 1955 годзе. Па вяртанні на радзіму ён павінен быў адказаць у судзе ФРГ за забойства дзяцей і жонкі. Суддзі апраўдалі яго з-за вар'яцтва. «Цяжар памяці», як піша Хубер, «магчыма, быў горшы за смерць».

Застаецца дадаць, што хваля суіцыду пачатку 1945-га не была першай у гітлераўскай Германіі. У лістападзе 1938 годзе. каля сотні нямецкіх яўрэяў добраахвотна пайшлі з жыцця падчас сумнавядомых пагромаў «Крыштальнай ночы». Аднак на гэта ў іх былі іншыя матывы. «Тое самагубства было звычайнай рэакцыяй на абразу і прыніжэнне, якое перажылі многія яўрэі ў лістападзе 1938-га. Эмацыйны ўдар быў у многіх выпадках больш жорсткім, чым фізічны гвалт», — піша адзін з ізраільскіх гісторыкаў.

**Устаноўку на тое, што з прыходам армій саюзнікаў усіх немцаў чакае капут, ахвотна распальвала нацысцкая прапаганда. Асобнай фокуснай групай для ведамства Гебельса былі жанчыны, якім у выпадку краху Гітлера стоадсоткава «гарантавалі» згвалтаванне**

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Анэгрэт Крамп-Карэнбаўэр



АКК (так называюць палітыка па першых літарах яе прозвішча), якая да 10 лютага лічылася афіцыйнай спадчынніцай Ангелы Меркель і была лідарам партыі Саюз хрысціянскіх дэмакратаў (CDU), не будзе змагацца за пасаду канцлера на парламенцкіх выбарах 2021 г.одзе Заява прагучала на фоне ўнутрыпартыйнага скандалу, выкліканага поспехам правых папулістаў з «Альтэрнатывы для Германіі» (AfD) у зямлі Цюрынгія. Тут «Альтэрнатыва», па сутнасці, стварыла з партыяй Меркель парламенцкі блок, што справакавала гучны скандал. Пры гэтым цюрынгская секцыя CDU ігнаравала прамое ўказанне фармальнага лідара партыі — галасаваць за роспуск зямельнага парламента і прызначэнне новых выбараў. Гэты момант засведчыў слабы аўтарытэт АКК і, напэўна, стаў асноўнай прычынай яе адмовы ад канцлерства. Цяпер Ангеле Меркель трэба думаць пра новага пераемніка. Называюць некалькі кандыдатур — былы лідар фракцыі хрысціянскіх дэмакратаў Фрыдрых Мерц, лідар баварскіх хрысціянскіх сацыялістаў (партыя-партнёр CDU) Маркус Зёдэр, кіраўнік урада зямлі Паўночны Рэйн — Вестфалія Армін Лашэт і, нарэшце, кіраўнік Міністэрства аховы здароўя Енс Шпан. Усе яны прытрымліваюцца больш правых поглядаў, чым цяперашні канцлер, што дазваляе казаць пра магчымы дрэйф CDU у будучым у бок класічнага кансерватызму.

### Педра Санчас



Кіраўнік урада Іспаніі працягнуў палітыку гістарычнай памяці, накіраваную супраць спадчыны дыктатуры Франка. Гэтым разам, як інфармуе спікер урада, выраўшана забараніць любыя праявы ідэалізацыі і ўсхвалення дыктатуры 1939—1975 гадоў. Спікер таксама заявіў, што ўрад будзе падтрымліваць сем'і, якія ўсё яшчэ шукаюць ахвяраў фашысцкіх рэпрэсій, пахаваных у брацкіх магілах па ўсёй Іспаніі. Паводле той жа крыніцы, усе сімвалы дыктатуры ў Іспаніі таксама павінны канчаткова знікнуць з вуліц. Ініцыятыва ўрада адвочна больш за ўсё пагражае фонду імя Франсіска Франка, які, паводле статуту, ставіць перад сабою задачу «абараніць спадчыну і памяць пра каўдыльа». Кіраўніцтва ўстановы ўжо выказала пратэст супраць будучага законапраекта і асудзіла Санчэса за замах на свабоду думкі. Фонд настойвае на праве «абараняць праўду ад узмацнення маніпуляцый у наш час», паведамляе яго сайт. Яшчэ адной ахвярай закону пра забарону праслаўляць Франка можа быць правапапулісцкая партыя Vox, якая па выніках лістападаўскіх выбараў стала трэцяй сілай у іспанскім парламенце. Важны складнік піяру Vox — настальгія па старых добрых часах дыктатуры. Такім чынам, новы закон аўтаматам дазволіць пачаць судовую справу аб закрыцці партыі. «Яны хочуць забараніць нас і пасадзіць усіх у турму, але мы не будзем маўчаць», — заявіў лідар Vox, паабяцаўшы заблакаваць рэформу нават з дапамогай вуліцы.

### Касым-Жамарт Такаеў



Кіраўнік Казахстана намагаецца навесці парадак пасля крывавых міжэтнічных сутыкненняў у Кардайскім раёне. Канфлікт ахапіў населеныя пункты кампактнага пражывання дунган — этнічнай групы, якая прыйшла на гэтыя землі ў другой палове XIX ст. з Кітая. У выніку разборак было забіта больш за 11 чалавек. Яшчэ 50 чалавек застаюцца ў бальніцах, спаленыя дзясяткі дамоў і машын. Некалькі соцень збеглі ў суседні Кыргызстан, адкуль толькі пачалі вяртацца. Адначасова ўлада пачала «разбор палётаў». Ужо звольненыя шэраг кіраўнікоў мясцовай і рэгіянальнай адміністрацый. Але комплекснага разумення трагедыі дасюль няма. Паліцыя кажа, што ўсё пачалося з бытавой бойкі нейкіх шафёраў, якая трапіла ў інтэрнэт з адпаведным каментаром. Гэта, маўляў, і мабілізавала пагромшчыкаў. Аднак стыхійнымі і апалітычнымі пагромы назваць цяжка. Хаця б праз тое, што падчас іх гучалі лозунгі супраць кітайскай экспансіі. Звяртаюць увагу на прысутнасць крымінальных элементаў, што дазваляе казаць пра магчымы передзел нелегальнага транзіту кантрабандных грузаў. Цалкам незразумелыя паводзіны мясцовых сілавікоў, якія замест таго, каб спыніць пагромшчыкаў, наадварот, нават часам дапамагалі ім. Такаеў заявіў, што кроваправліцце адбылося па віне правакатараў і пры пасіўнасці ды нават дапамозе супрацоўнікаў дзяржорганаў. Не выключана, што Кардайскі інцыдэнт паўплывае на агульную палітыку. Прынамсі, сярод звольненых — адзін з лідараў нефармальнай фракцыі казахскіх нацыяналістаў унутры вертыкалі.

# Валянцін Тарас: Беларуская мова — мова першых прачытаных мною кніг

Сяргей ШАПРАН

**Валянціну Яфімавічу Тарасу 9 лютага было б 90 гадоў. Ён перакладаў Рыгора Барадуліна і Габрыэля Гарсію Маркеса, пісаў песні для «Песняроў», і менавіта яго папрасіў Васіль Быкаў перастварыць па-руску апошнюю сваю кнігу – «Доўгую дарогу дадому». З нагоды сёлетніх юбілеяў у Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры на гэтым тыдні адкрылася выстава «Валянцін Тарас і Рыгор Барадулін. На выспе ўспамінаў...»**



Фота Сяргея Шапрана

## Восень патрыярха

Памятаю, як напярэдадні 70-гадовага юбілею Валянцін Тарас падчас нашай з ім гутаркі задаўся пытаннем, ці не «парожняк» ён гнаў усе гэтыя гады, ці ёсць штосьці ў яго, умоўна кажучы, сямідзесяці вагонах? Бо, гаварыў, зразумела, што падарожжа заканчваецца і цягнік жыцця запавольвае ходу перад апошнім прыпынкам. Дык што паспеў зрабіць за сваё не такое ўжо малое жыццё Валянцін Тарас? Чым ён адметны і адрозны ад іншых?

Аўтар некалькіх зборнікаў паэзіі і прозы, а таксама сцэнарыяў дакументальных фільмаў і перакладаў беларускай і сусветнай паэзіі, прозы і драматургіі, ён быў найперш вядомы тым, што разам з паэтам уругвайскага паходжання Карласам Шэрманам пераклаў «Восень патрыярха» Маркеса. Ішоў 1977 год. Вялікім калумбійцам была ўжо напісаная «Восень патрыярха», і яе перакладам зацікавіўся беларускі часопіс «Нёман». Аднак Шэрман не ў дастатковай меры валодаў рускай мовай, таму падрыхтаваў толькі падрадкоўнік, мастацкі ж пераклад прапанаваў зрабіць свайму сябру Валянціну Тарасу. Але таго ахапіў жах, бо ён не разумеў, як жа павінен гучаць гэты вялікі раман па-руску... Доўгі час Валянцін Яфімавіч біўся як рыба аб лёд, пакуль не знайшоў выйсце: паехаў да Шэрмана і папрасіў чытаць раман па-іспанску. Шэрман чытаў гадзіну запар, тым часам Тарас занатоўваў свае ўражанні ў выглядзе «абракадабры»...

Калі «Восень патрыярха» была апублікаваная па-руску, маскоўскі рэцэнзент выдання напісала ў Мінск: «Ваш перавод на доўгія гады застанецца адзіным, бо пераўзысці яго творча немагчыма». Сам жа Валянцін Яфімавіч і праз чвэрць стагоддзя прызнаваўся, што, гартаючы часам «Восень патрыярха», па-ранейшаму здзіўляўся: няўжо гэта ён зрабіў?!

## «З Боскай дапамогай»

«Аднойчы ў мяне спыталі: кім я сябе лічу найперш — паэтам, празаікам, публіцыстам ці перакладчыкам? — гаварыў мне Валянцін Тарас. — Ужо не ведаю, які я паэт — хутчэй за ўсё сярэдненькі. Ну, крыху лепшы празаік і — маю правa так сёння казаць — нядрэнны публіцыст. І яшчэ, паклаўшы руку на сэрца, магу сказаць, што я вельмі добры, нават выдатны перакладчык. Мне і сёння не сорамна за тое, што я зрабіў для беларускай паэзіі — ні за адзін радок не сорамна! А я ж перакладаў выдатных, бліскучых паэтаў! Напрыклад, Рыгора Барадуліна. І хоць мы звязаны з Грышам амаль саракагадовым сяброўствам, але зусім не па гэтай прычыне кажу, што Барадулін — гэта вялікі беларускі паэт. Часам паглядзіш на яго і падумаеш: божа, гэта я столькі гадоў побач з Рыгорам, а ён жа на самай справе вялікі паэт!..»

Зрэшты, не толькі Маркеса і Барадуліна перакладаў Тарас — яшчэ Францішка Багушэвіча і Янку Купалу, Кузьму Чорнага і Ларысу Геніюш, Янку Брыля і Міхася Стральцова. Апроч таго, асобная старонка ў яго біяграфіі — пераклад быкаўскай «Доўгай дарогі дадому».

Была вясна 2003 года. Васіль Уладзіміравіч, цяжка хворы, збіраўся класціся на аперацыю ў Празе, дзе тады жыў. Але перад тым папрасіў прыехаць Валянціна Тараса і ўжо тут, у Празе, запытаўся, ці слухаў ён па радыё «Свабода» яго кнігу? (Размова ішла пра «Доўгую дарогу дадому», фрагменты з якой Быкаў яшчэ перад выхадам кнігі чытаў у радыёэфіры.) Пачуўшы станоўчы адказ, Васіль Уладзіміравіч сказаў: «Прыйдзецца цяпер табе яшчэ і прачытаць. І не толькі прачытаць, але і перакласці. У мяне хутчэй за ўсё часу на гэта ўжо не будзе, а іншага перакладчыка я не бачу. Так што з Боскай дапамогай бярыся». І пасля так і падпісаў асобнік «Доўгай дарогі»: «Дарагому і даўняму сябру — Валюшаку — Валянціну Тарасу гэты рабочы экз., які ён перастворыць у іншы выгляд».

Перакладам Валянцін Яфімавіч заняўся, калі Быкава ўжо не стала. «Гэта была праца на мяжы рыдання, — прызнаўся ён пасля. — Бо я ўвесь час чуў голас Васіля, і гэта выбівала мяне з каляіны...»

## На мове дзяцінства

Рускамоўны літаратар, Валянцін Тарас у апошнія гады свайго жыцця нечакана пачаў пісаць па-беларуску. «Гэта вяртанне да самога сябе, да сваіх вытокаў, — тлумачыў ён, адказваючы на маё пытанне пра гэтую дзіўную метамарфозу. — Я памятаю час, калі Мінск называўся Менскам (як ён і павінен называцца), калі беларуская мова жыла паўнавартасным жыццём не толькі ў вёсцы, але і ў горадзе — гэта мова майго ранняга дзяцінства, мова першых прачытаных мною кніг, мова беларускіх цётак з вёсак партызанскай зоны, цётак, што кармілі мяне і шкадавалі, нібы маці. Апроч таго, беларуская мова стала для мяне прынцыпам. Даўно, гадоў дваццаць таму, я напісаў верш, які пачынаўся наступным чынам: «Дзве мовы ў мяне — дзве родныя дубровы, источники мои: крыніца і роднік. Родная речь звучит, как рэха роднай мовы, і рэхам мовы роднай звучит родной язык». Аднак жыццё ўнесла жорсткую карэкціроўку ў гэтую маю дэкларацыю. Таму што беларуская мова ў бядзе. Менавіта беларуская, а не руская. Вось чаму, калі паўстала пытанне пра рэферэндум адносна мовы — пра тое, каб узаконіць дзяржаўнае двухмоўе, я выступіў адкрыта і публічна. Дзяржаўнае двухмоўе было б правамерна, калі б дзве мовы знаходзіліся ў роўным становішчы. Калі б адна з іх яшчэ ў часы савецкай імперыі не выракла на немату свайго сабрата. Такая пазіцыя запатрабавала ад мяне, каб і сам я загаварыў па-беларуску і стаў пісаць па-беларуску. Тым больш прынцыпова гэта сёння, калі Расія, якая зноў пакутуе на сваю былую імперскую веліч, гатовая нас праглынуць...»

Зрэшты, дадаваў Валянцін Яфімавіч, гэта не азначала, што ён адмаўляецца ад рускай мовы, ад рускай культуры, ад яе паэтаў і мысляроў, такіх як Герцэн ці Андрэй Сахараў. «Гэта было б глупства, — гаварыў ён. — Але я хачу, каб у маім родным доме мова суседа, хай і вялікага, не ставіла нашу мову ў становішча Папялушкі, і каб не хлусілі, што мы, маўляў, адзін народ, што ў нас адна гісторыя і мова, па сутнасці, таксама адна. Я хачу, каб наш сусед памятаў: у нас была свая гісторыя. І мова ў нас свая ўласная. Я гэта ведаю як перакладчык».

## Насуперак міфам

Ён мог дазволіць сабе такую раскошу — быць смелым і рэзкім у выказваннях. Адбывалася гэта, відаць, не толькі з прычыны характару, але яшчэ і таму, што належаў ён да таго пакалення пісьменнікаў-франтавікоў, якое атрымала найменне «шасцідзясятнікі». І не толькі Васіль Быкаў быў ягоным сябрам, але яшчэ і празаік Алесь Адамовіч, паэт Навум Кіслік, філосаф Мікалай Крукоўскі... «Нас аб'ядноўвае не ўзрост, а біяграфія, — гаварыў Тарас, які ў 13-гадовым узросце пайшоў у партызаны. — Усе мы зразумелі на вайне штосьці такое, што потым і дала магчымасць пераадолець савецкую ідэалогію. У гэтым сэнсе вайна з'явілася вялікім выхавацелем».

Ведаючы не па чутках, што такое вайна, ён сведчыў — у паказе партызанскага руху міфалогіі ў нас, вядома, хапае. Але, у той жа час, папярэджваў: не варта ўпадаць у іншую крайнасць — прыпадабняць партызан бандытам дый толькі ім. «Гэта таксама хлусня, — гаварыў Валянцін Тарас. — Бо партызаны не толькі забіралі ў сялян кароў і кабанчыкаў, каб пракарміцца, і не толькі абуваліся і апраналіся за кошт беларускай вёскі, — яны яшчэ і з немцамі ваявалі. А з гітлераўскім фашызмам трэба было біцца да смерці! Іншая справа, што партызанская вайна мела і адваротны бок: бруд, злачынствы, бясcудныя расправы, самавольства асобных аддзелаў, якіх, дарэчы, самі партызаны баяліся больш, чым гестапа... І я пісаў пра гэта, таму і магу ганарыцца: у сваіх партызанскіх апавяданнях я ніколі не хлусіў і міфатворчасцю не займаўся».

Праўда, менавіта з гэтай прычыны яго творы часам прыцягвалі ўвагу пільнай цэнзуры. Так, напрыклад, здарылася з апавяданнем «Апошняя карова», якое было знята з публікацыі ў часопісе «Нёман». Аднак пасля з'яўлення ў часопісе «Юность» яно было не толькі перакладзена на некалькі замежных моў, але і экранізавана на кіеўскай кінастудыі. Калі ж іншым разам, у дакументальным фільме «Пасля Перамогі», Тарас распавёў пра свае партызанскае дзяцінства, ветэраны вайны пачалі патрабаваць ад генпракурора прыцягнення былога партызана да адказнасці за паклёп на партыю, на савецкіх партызан і слаўных чэкістаў.

## З вышыні гадоў

Яшчэ адзін з грунтоўных вынікаў яго жыцця — мемуарная кніга «На высьпе ўспамінаў», пра якую сам ён неяк казаў: «Хоць пра некаторых, што яшчэ жывыя, я ў сваіх аповедах змаўчаў, але затое не схлусіў ні разу, ні ў адным слове. Пра сябе ж часам кажу такія рэчы, пра якія і распавядаць не прынята, а я — кажу!» Падпісваючы мне асобнік гэтай сваёй кнігі, ён тады адзначыў: «На добрую памяць пра старога Валянціна Тараса, які вельмі стараўся застацца з маладымі»...

Аднак ці адчуваў Валянцін Яфімавіч цяжар пражытых гадоў? Гаворачы пра сябе, пра сваё светаўспрыманне ў сталым узросце, ён вынаходзіў такое тлумачэнне: «20-гадовы Гётэ і 70-гадовы Гётэ — гэта адзін і той жа паэт. Толькі ў дваццаць гадоў гэта быў яшчэ, як мы любім цытаваць, «юнак з поглядам палымяным», а ў семдзесят — гэта паэт, мудры велізарным жыццёвым досведам. Вось і ўся розніца».

А яшчэ чытаў на памяць Пастарнака:

*Но старость — это Рим, который*
*Взамен турусов и колес*
*Не читки требует с актера,*
*А полной гибели всерьез...*

І, гаворачы пра сённяшні час, пра тое, што яму цяпер служыць суцяшэннем, найперш называў праўнучку Верачку і тут жа следам з захапленнем адзначаў, якую велізарную радасць і па сённяшні прыносіць яму набыццё добрага хлеба: «Для мяне купля пахкага хлеба — заўсёды свята. Я гатовы расцалаваць гэты бохан! Ужо не кажу пра тую радасць, калі чакаеш старых сяброў і тады з велізарным задавальненнем ідзеш купляць пляшку гарэлкі. А ўсе гэтыя ханжаскія размовы, што алкаголь жудасны... Ды пайшлі яны, гэтыя маралісты! Чалавеку патрэбна добрая чарка для добрай гутаркі. Я заўсёды ўспамінаю замалёўку з нататніка Эфендзі Капіева: у паселішча да сябра спусціўся з гор пастух, і той пайшоў і прынёс бурдзюк віна. Пастух жа, пяшчотна пагладзіўшы бурдзюк, казаў: «Ай, колькі тут добрых размоў! На тры ночы хопіць!» Для мяне гэта важна дагэтуль — добрыя гутаркі...»

Такім ён і застаўся ў памяці — паэт і перакладчык Валянцін Яфімавіч Тарас. Чалавек, які вельмі стараўся застацца з маладымі.

# Баляслаў Масціцкі. Апошні бой «доўбарчыка»



Ігар МЕЛЬНІКАЎ

**Ён мог зрабіць выдатную вайсковую кар'еру, даслужыцца да генеральскіх лампасаў, узначаліць адну з карпусных акруг Войска Польскага, магчыма, нават і ў Заходняй Беларусі. Але гэтага не здарылася, бо зімой 1918-га камандзір 1-га уланскага палка I Польскага корпуса Баляслаў Масціцкі загінуў у баі супраць бальшавікоў.**

## У войску імперыі Раманавых

Нарадзіўся будучы палкоўнік-кавалерыст у снежні 1877 г. у мястэчку Высокае Мазавецкае. Працаваў на вугальных шахтах, а потым паступіў на вучобу ў Чугуеўскае пяхотнае юнкерскае вучылішча. У 1902 г. маладога афіцэра прызначылі ў кавалерыйскую частку, якая дыслакавалася ў Манчжурыі. Баляслаў удзельнічаў у Руска-японскай вайне, пасля чаго камандаваў эскадронам, які змагаўся супраць тунгузскіх партызан. У 1911 г. Масціцкі пераехаў у Пецярбург і паступіў у Афіцэрскую кавалерыйскую школу, пасля заканчэння якой яму было нададзена званне ротмістра (адпавядала званню капітан у пяхоце — І.М.).

З красавіка 1915 г. у якасці камандзіра эскадрона Заамурскага кавалерыйскага палка ён удзельнічаў у Першай сусветнай вайне. У баі пад Гарадзенкай праявіў храбрасць, за што быў узнагароджаны афіцэрскім Георгіеўскім крыжом. За кавалерыйскую атаку, праведзеную ў чэрвені 1916 г. пад Нецярапінцамі, ён атрымаў залатую шаблю. Хутка Масціцкаму надалі званне падпалкоўніка і прызначылі намеснікам камандзіра палка. Вясной 1917 г. афіцэра зноў павысілі ў званні (да палкоўніка), і ён узначаліў Заамурскі полк.

## Супраць трох ворагаў Польшчы

Расійская імперыя дажывала апошнія дні. Царскае войска распадалася на вачах. Сяляне не хацелі больш ваяваць «за цара і Айчыну», а афіцэры з заходніх ускраін атрымалі магчымасць перайсці на службу ў свае нацыянальныя часткі. У ліпені 1917 года Баляслаў Масціцкі ўзначаліў 1-шы Польскі ўланскі полк. Першым заданнем новай часткі стала барацьба супраць... марадзёраў у Станіслававе. Аднак неўзабаве польскіх улан чакала сапраўднае баявое хрышчэнне. 24 ліпеня 1917 г. пад мястэчкам Крэхоўцы кавалерысты пад камандаваннем палкоўніка Масціцкага разбілі баварскую і аўстрыйскую пяхоту і стрымалі наступ пераўзыходзячых сіл кайзераўскіх войскаў.

Пасля гэтага полк атрымаў назву Крэхавецкі. Як пісалі ў міжваеннае дваццацігоддзе польскія гісторыкі, «1-шы ўланскі полк быў адзіным польскім злучэннем, якое падчас Вялікай вайны 1914–1918 гадоў змагалася супраць усіх краін, якія ў XVIII ст. падзялілі Рэч Паспалітую. У Станіслававе яны білі рускіх, а пад Крэхоўцамі — немцаў і аўстрыякаў».

## Дайсці да Варшавы

У верасні 1917 г. у Мінску вайсковая частка перайшла ў склад I Польскага корпуса, які ў гады Першай сусветнай вайны называлі «доўбарчыкамі», ад прозвішча камандзіра, генерала Юзафа Доўбар-Мусніцкага. Уланы пад камандаваннем Баляслава Масціцкага ўдзельнічалі ў шматлікіх баях супраць Чырвонай Арміі. Аднак сітуацыя была не на карысць войска Доўбар-Мусніцкага. З аднаго боку, яму супрацьстаялі бальшавікі, з іншага — кайзераўскія войскі. Нарэшце, корпус знаходзіўся на беларускай зямлі, і мясцовае насельніцтва не заўсёды вітала польскія вайсковыя падраздзяленні.

Камандаванне I Польскага корпуса вырашыла накіраваць дэлегацыю ў Варшаву, каб арганізаваць супрацу з Рэгенцкай Радай — польскім урадам, які дзейнічаў ва ўмовах германскай акупацыі Польшчы. У лютым 1918 г. на чале дэлегацыі ў горад на Вісле накіраваўся палкоўнік Баляслаў Масціцкі.

Раніцай 11 лютага зводны эскадрон (160 шабель і два амерыканскія ручныя кулямёты «Льюіс») накіраваўся ў бок лініі бальшавіцка-германскага фронту. Узброеным эскортам камандаваў ротмістр Браніслаў Ромер (у верасні 1918 г. гэты афіцэр будзе расстраляны бальшавікамі — І.М.). У склад дэлегацыі для перамоў з Рэгенцкай Радай акрамя палкоўніка Масціцкага ўваходзілі паручнік Жыгімонт Жабакліцкі, харунжы Марушэўскі, харунжы Казімеж Біспінг і добраахвотнік Вітаўт Ванькові ч.



Галаўныя ўборы афіцэраў I Польскага корпуса



Падчас перавозкі цела Масціцкага ў Мінск

Ад Бабруйска да лініі фронту было прыкладна 300 км. Рухацца даводзілася па бальшавіцкіх тылах. «Канвой» не меў палявых кухань і забеспячэння, а надвор'е было вельмі халодным. Мала хто ведае, што эскадрон, які суправаджаў Масціцкага ў гэтай экспедыцыі, па плане генерала Доўбар-Мусніцкага, павінен быў адыгрываць і рэпрэзентатыўную функцыю. Штаб корпуса ў Бабруйскай крэпасці лічыў: немцам трэба было паказаць, што I Польскі корпус — гэта не бальшавіцкія абадранцы, а добра абмундзіраванае і падрыхтаванае войска, з якім варта лічыцца. З-за гэтага, напрыклад, уланы пакінулі ў Бабруйску папахі і паехалі ў Варшаву... у фуражках англійскага тыпу. І гэта ў мароз мінус 20 градусаў!

Дарога з Бабруйска да лініі фронту была цяжкай: польскія жаўнеры былі настолькі стомленымі, што вымушаныя былі спаць у сёдлах.



Курган доўбарчыкаў у Варшаве

## Канец місіі

Ля вёскі Лапацічы жаўнеры Масціцкага натыкнуліся на пасты бальшавіцкай 15-й Сібірскай дывізіі. «Чырвоныя» прапусцілі польскі авангард і «ўдарылі» па асноўнай частцы эскадрона. У гэты момант выявілася вайсковая падрыхтоўка крэхавецкіх уланаў. Пачуўшы першыя стрэлы, кавалерысты разгарнуліся ў баявы парадак. Палякі спешыліся і адкрылі агонь па праціўніку. Хутка пасля гэтага ўланы пайшлі ў атаку. З крыкам «Ура!» яны ўварваліся ў вёску і сышліся ў рукапашнай з чырвонаармейцамі.

Пазней ва ўзнагародным дакуменце было адзначана: «Гэтая частка атрада, не чакаючы як да іх падыдзе 3-ці эскадрон, кінулася ў штыкавую атаку і заняла вёску, прымусіўшы бальшавікоў адступіць. Гэтым былі ўратаваны не толькі пакінутыя ў вёсцы параненыя ўланы (авангард эскадрона, які першым уехаў у вёску і адарваўся ад асноўных сіл, відавочна, трапіў пад шквальны агонь і панёс вялікія страты — І.М.), але эвакуіраваны целы забітых і ўратаваны ўвесь атрад».

У выніку бою палякі выбілі бальшавікоў з вёскі, пры гэтым Масціцкі згубіў забітымі аднаго афіцэра і трох жаўнераў, яшчэ каля 17 чалавек былі параненыя. У сваю чаргу бальшавікі страцілі 12 чалавек. Аднак хутка «чырвоныя» пры падтрымцы артылерыі пайшлі ў контрнаступ. Тады стала зразумела, што праз савецкую лінію абароны польскаму атраду не прабіцца. «Чым больш людзей, тым больш увагі», — разважаў пасля бою ў Лапацічах палкоўнік Масціцкі. Польская дэлегацыя (у яе склад дадаліся падафіцэры Вітаўт Ханкіш і Станіслаў Дзенісевіч) пераапранулася ў цывільную вопратку і пры падтрымцы леснікоў князя Альбрэхта Радзівіла пайшла далей. У сваю чаргу эскадрон, прыцягваючы ўвагу бальшавіцкіх войскаў, стаў адыходзіць на ўсход, у Бабруйскую крэпасць.

19 лютага 1918 г. ля вёскі Дуб пад Лунінцам група на чале з Баляславам Масціцкім трапіла ў бальшавіцкую засаду. У выніку бою палкоўнік быў забіты, а суправаджаючы яго харунжы Марушэўскі трапіў у палон.

## Памяць пра легенду

Крэхавецкія ўланы адбілі цела свайго камандзіра, і пазней палкоўнік быў пахаваны ў Мінску. Праўда, у жніўні 1921 г. польскія ўлады забралі парэшткі палкоўніка са сталіцы БССР і перавезлі іх у Варшаву. Дарэчы, пра гэта ўзгадвала князёўна Марыя Друцкая-Любецкая, якая ў той час шукала магчымасці вярнуць парэшткі забітай дачкі Крысціны.

«У чэрвені 1921 г. палкоўнік Хэмпель, які ехаў у Мінск па парэшткі забітага бальшавікамі ў 1918 г. пад Дубам палкоўніка Масціцкага, прапанаваў нашай сям'і прывезці парэшткі Крысціны. Але, на жаль, бальшавіцкія ўлады не дазволілі. Яны баяліся антысавецкіх выступленняў у Койданаве», — адзначаецца ва ўспамінах князёўны.

24 жніўня 1921 г. Баляслаў Масціцкі быў перапахаваны ў Касцёле Св. Крыжа ў польскай сталіцы. Юзаф Пілсудскі пасмяротна ўзнагародзіў кавалерыста Крыжом Virtuti Militari.

У лістападзе 1930 г. на месцы смерці афіцэра былі пастаўлены памятны знак, які захаваўся да нашых дзён. Помнік паўстаў дзякуючы намаганням і фінансавай падтрымцы перадапошняга нясвіжскага ардыната князя Альбрэхта Радзівіла. Адкрыццё памятнага знаку адбылося ва ўрачыстай атмасферы. На цырымоніі прысутнічалі вайсковае (кіраваў мерапрыемствам камандуючы IX карпуснай акругай брыгадны генерал Траяноўскі) і цывільнае кіраўніцтва Другой Рэчы Паспалітай.

1-шы полк крэхавецкіх уланаў імя палкоўніка Баляслава Масціцкага ўдзельнічаў у Польска-бальшавіцкай вайне. У міжваенны час гэтае злучэнне кватаравала ў Аўгустове. У верасні 1939 г. у складзе Сувальскай кавалерыйскай брыгады полк змагаўся супраць нацыстаў пад Замбравам, Ольшэвам і скончыў свой баявы шлях пад Коцкам у кастрычніку 1939-га. У 1941 годзе гэтае вайсковае злучэнне было адноўлена ў складзе Войска Польскага ў СССР. У якасці складовай часткі 2-й танкавай брыгады ў 1944 годзе крэхавецкія ўланы ўдзельнічалі ў бітве пад Анконай.

**Фота з асабістага архіву Ігара Мельнікава**

# «Мова — гэта мая апора»

## Да 85-годдзя Народнага паэта Беларусі Рыгора Барадуліна

**Па гарызанталі:** 3. Вёска на Ушаччыне (пазнейшая назва — Верасоўка), дзе 85 гадоў таму, 24 лютага 1935 года, у сялянскай сям'і Івана і Акуліны нарадзіўся выдатны паэт, эсэіст, перакладчык, грамадскі дзеяч Рыгор Барадулін. 8. «... не забаўка», «Кобра ў торбе», «Ці пазяхае бегемот» — зборнікі вершаў для дзяцей Народнага паэта Беларусі Рыгора Барадуліна. 9. Краіна ў Афрыцы. 10. Назва кнігі «вершасказаў» паэта (2009 год), што выйшла ў свет дзякуючы намаганням беларускага барда Алеся Камоцкага, які, як і Ігар Лучанок, паклаў многія вершы Рыгора Барадуліна на музыку. 13. Вольнаму ... , уратаванаму рай (прыказка). 14. «Збірайце добрыя думкі ў сэрцы сваім, як ... мёд» (Еўфрасіння Полацкая). 15. «Любіце і шануйце, як святыню, роднае слова, з якім вас літасцівы Бог на ... пусціў» (Францыск Скарына). 18. У горнай Швейцарыі — сельская хатка. 19. Сталіца адной з еўрапейскіх краін, якая ўзнагародзіла Рыгора Барадуліна ў 1998 годзе найвышэйшай узнагародай краіны — Ордэнам Трох Зорак. 22. ... вольны, калі ў яго ёсць крылы (прыказка). 23. Алесь ... Псеўданім Рыгора Барадуліна, пад якім у газеце «Чырвоная змена» быў надрукаваны першы верш паэта (1953 год). 25. Колькасць злоўленай рыбы. 29. «... — зорная нарачанка. Вякі — нязгібныя дзівакі — // Дамагаюцца яе рукі». З верша «Свабода — свабодная самая», які паэт напісаў у вёсцы Бычкі на дзень нараджэння Васіля Быкава. 31. «... ад Барадуліна». Кніга эпіграм і показак паэта, выдадзеная ў 2005 годзе беларускай службай «Радыё Свабода». 32. Шчэпка. 33. Бацька вады — ..., бацька слова — вуха (прыказка).



**Па вертыкалі:** 1. Люты ваду падпусціць — ... падбярэ (прыказка). 2. «Помніць кожнай масніцы спеў, // Кожны ... у прыцхілай хаце». З песні «Трэба дома бываць часцей» (словы Рыгора Барадуліна, музыка Ігара Лучанка). 3. Буйная рака ў Індыі. 4. «Мова — гэта мая ...» (Рыгор Барадулін). 21 лютага — Міжнародны Дзень роднай мовы. 5. «Прыцхіх наш ...: ад гутарак аскома». З верша Уладзіміра Дубоўкі «За ўсе краі, за ўсе народы свету». 6. Міжнародная арганізацыя, у працы сесіі якой у 1984 годзе прымаў удзел і Рыгор Барадулін (абрэвіятура). 7. «Хай свеціцца імя тваё, Беларусь!». З верша паэта «... наступнасці». 11. «Вушацкі ... Рыгора Барадуліна». Дыялектычны слоўнік з радзімы паэта (2013 год), які Рыгор Барадулін пачаў складаць амаль з самага дзяцінства. 12. «... ад мамы» (1995 год), «Ксты» (2006 год), «Руны перуновы» (2006 год) — паэтычныя зборнікі духоўнай лірыкі паэта. 16. «Дваццаць пятага сакавіка — // Годны ... беларускай дзяржавы». З верша «25 сакавіка». 17. «Мы больш сваёй ахвярнасцю вядомы, // Мы, беларусы, // Мы — ... такі». З верша паэта «Мы — беларусы». 20. Што-небудзь вельмі масіўнае. 21. Званне, якое прысуджаецца за выдатныя поспехі ў літаратуры, мастацтве. Рыгору Барадуліну двойчы прысуджалася гэтае званне, быў ён таксама ўзнагароджаны двума Ордэнамі і медалём Францыска Скарыны, а за паэтычны зборнік «Ксты» паэт быў намінаваны на Нобелеўскую прэмію. 24. Тое, што і барабан. 26. Натуральны падатак у рускай дзяржаве. 27. «Хай беларус беларуса, // Будзе любіць як брата. // Светлая Імем Ісуса // Наша крывіцкая ...». З верша «Маленне за Беларусь». 28. Старажытнае народнае паданне. 30. Беларускі ...-цэнтр. Аб'яднанне прафесійных літаратараў, прэзідэнтам якога доўгі час быў Рыгор Барадулін.

**Склаў Лявон Целеш, г. Дзяржынск**

**Адказы на крыжаванку** «Тут цёплая мова гучыць» **(НЧ №3 ад 24 студзеня):**

**Па гарызанталі:** 1. Мартын. 3. Людзі. 5. След. 8. Прадзеды. 9. Агат. 10. Завея. 12. Кур'ёз. 14. Рыса. 16. Атам. 17. Дзіда. 19. Отрак. 21. Ікра. 22. Імгненне. 26. Снег. 27. Права. 28. Святло.

**Па вертыкалі:** 1. Маланкі. 2. Нар. 3. Лёд. 4. Зад. 5. Сага. 6. Дзеяч. 7. Сакратар. 10. Зброд. 11. Веснічкі. 13. Замак. 15. Палатно. 18. Голас. 20. Ашуг. 23. Мур. 24. Ежа. 25. Нос.

# БагатаДата

**Два знаныя беларусы нарадзіліся ў гэтыя дні, але Другая сусветная развяла іх па розныя бакі. У каго яшчэ дзень народзінаў на тыдні?**

### 15 лютага

**Дзень памяці вояроў-інтэрнацыяналістаў. Міжнародны дзень дзяцей, хворых на рак.**

**1915.** У вёсцы Малахоўцы Баранавіцкага раёна на Брэстчыне нарадзіўся ўдзельнік мінскага падполля падчас Другой сусветнай вайны Іван Кабушкін, у гонар якога названа адна з вуліц Мінска. У падполле ён трапіў пасля таго, як здолеў выбрацца з палону. Ён дзейнічаў пад мянушкай Жан. Як Жана яго і дапытвалі немцы, калі схапілі ў 1943 г. У тым ліку катавалі электратокам. Але Кабушкін не сказаў, хто ён і нікога не выдаў.

### 16 лютага

**1925.** У вёсцы Васілевічы Рэчыцкага раёна Гомельскай вобласці нарадзіўся пісьменнік Іван Навуменка. Працаваў дырэктарам Інстытута літаратуры Акадэміі навук БССР, быў віцэ-прэзідэнтам Акадэміі навук БССР, а таксама старшынём Вярхоўнага Савета. Творы: «Сасна пры дарозе», «Вецер у соснах», «Сорак трэці», «Смутак белых начэй», «Летуценнік». Аўтар манаграфій, прысвечаных творчасці Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча.

### 17 лютага

**1900.** У вёсцы Расказань у Саратаўскай вобласці нарадзіўся беларускі вучоны ў галіне гідратэхнікі Фёдар Вінакураў. Міністр меліярацыі і воднай гаспадаркі БССР.

### 18 лютага

**1935.** У Чылі нарадзіўся беларускі кампазітар Сяргей Картэс. Быў галоўным музрэдактарам кінастудыі «Беларусьфільм» і мастацкім кіраўніком, дырэктарам Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета. Стварыў музыку да многіх спектакляў і фільмаў (напрыклад, «Чорны замак Альшанскі»).

### 19 лютага

**1935.** У Магілёве нарадзіўся акцёр Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы, народны артыст Беларусі і СССР Генадзь Аўсяннікаў. У рэпертуары Купалаўскага тэатра заняты ў спектаклях: «Вечар», «Людзі на балоце», «Шляхціц Завальня», «Пан Тадэвуш».

**1945.** У Алматы нарадзіўся беларускі раварыст Віктар Быкаў. Двухразовы чэмпіён свету ў каманднай гонцы пераследу.

**1945.** У Ташкенце нарадзіўся савецкі спявак і кампазітар Юрый Антонаў. Скончыў музычную вучэльню ў Маладзечне, тут стварыў і свой першы музычны гурт. Выкладаў у дзіцячай музычнай школе ў Мінску. Працаваў салістам-інструменталістам у Беларускай дзяржаўнай філармоніі. Потым пераехаў у Санкт-Пецярбург і ўдзельнічаў у гурце «Спеўныя гітары», праца ў якім прынесла яму славу.

### 20 лютага

**Сусветны дзень сацыяльнай справядлівасці.**

**1945.** У Рудзенску Пухавіцкага раёна на Міншчыне нарадзілася пісьменніца і перакладчыца Таіса Бондар. У пачатку 2000-х кіравала рэдакцыйна-выдавецкай установай «Літаратура і мастацтва». Творы — раманы «Спакуса», «Ахвяры», «Павуціннe».

### 21 лютага

**Міжнародны дзень роднай мовы. Сусветны дзень экскурсавода. Дзень работнікаў землеўпарадкавальнай і картографа-геадэзічнай службы ў Беларусі.**

**1835.** У вёсцы Максімаўка Клімавіцкага раёна на Магілёўшчыне нарадзіўся скульптар Міхаіл Мікешын. Самыя вядомыя яго творы — манумент «Тысячагоддзе Расіі» ў Вялікім Ноўгарадзе, помнікі Кацярыне II у Санкт-Пецярбургу і Багдану Хмяльніцкаму ў Кіеве.

**Падрыхтаваў Павел Кірылаў**

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (с) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17 347-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by
Падпісны індэкс 63279.

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова №257

Падпісана да друку 14.02.2020. 8.00. Наклад 2000 асобнікаў. Аб'ём 3 друк. аркушы. Кошт свабодны.